



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

19 чэрвеня 2020 года №25 (1312) 18+




# Маладзечанца аштрафавалі за ўдзел у стрыме Ціханоўскага

## Ён скардзіўся на адсутнасць беларускамоўных класаў у горадзе

старонка 18

Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.





**За суткі на платныя экспрэс-тэсты ў Вілейскую ЦРБ запісаліся 120 чалавек. Хапіла не ўсім ахвотным**

старонка 3





**Навучэнка музычнага каледжа распавяла пра свой выпускны**

старонка 2


ISSN 1991–7155
9 771991 715006 20025


Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# «Нешта ёкнула, вырашыла – буду музыкантам»

## Выпускніца каледжа імя Агінскага расказвае пра вучобу і каронавірусны выпускны

**Карэспандэнт «РГ» паразмаўляла з выпускніцай Маладзечанскага музычнага каледжа Наталляй Агеенкай пра выпускны падчас каронавіруснай пандэміі і жыццё разам з музыкай.**


Наталля плануе паступаць у Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі.

Фота з асабістага архіва Наталлі АГЕЕНКАЙ.

### «Надакучыла, адклала скрыпку на 10 месяцаў»

Наталля Агеенка вучылася ў Маладзечанскім музычным каледжы імя Агінскага. Спецыяльнасць Наталлі – «аркестравыя струнныя смычковыя інструменты» па класе скрыпкі. Выкладчыцай дзяўчыны была **Ірына Леанідаўна Абрампальская**.

Наталля падзялілася, што пачала займацца ў гэтай выкладчыцы яшчэ ў чацвёртым класе музычнай школы. Яна вучылася ў сектары педпрактыкі пры каледжы імя Агінскага.

Наталля распавядае, што ў 9 класе паўстала пытанне з паступленнем, тады яна не думала звязваць далейшае жыццё з музыкай.

– На той момант думала, што мне гэта надакучыла, адклала скрыпку на цэлых 10 месяцаў. Але літаральна ў канцы навучальнага года ўнутры мяне нешта ёкнула, вырашыла – хачу быць музыкантам.

Дзяўчына ўспамінае, што часу да ўступных экзаменаў заставалася зусім няшмат. Яе сям'я звярнулася да Ірыны Абрампальскай з просьбай падрыхтаваць Наталлю да паступлення. Сама Наталля кажа, што выкладчыца адрэагавала на просьбу радасна і пазітыўна.

### Пра маладзечанскі каледж

– Не было сумненняў у тым, што я буду паступаць менавіта ў маладзечанскі каледж. Я ведала выкладчыкаў і іх высокі прафесійны ўзровень, і само месца мне ўжо было родным. Цяпер пра свой выбар ні кроплі не шкадую.

### Вучоба і выпускны падчас каронавіруснай пандэміі

У 2020 годзе ўвесь свет сутыкнуўся з каронавірусам, жыццё змянілася і ў музычным каледжы. Наталля расказвае, што адразу не бачыла асаблівых адрозненняў. Яна ўспамінае, хтосьці насіў маскі, хтосьці быў без іх.

– Афіцыйнага распараджэння пра маскі ў нас не было. Яно з'явілася толькі ў апошні тыдзень вучобы. Каронавірус знайшлі ў аднаго з работнікаў установы, выкладчыкам прыйшлося датэрмінова выстаўляць ацэнкі. Каледж закрылі на два тыдні раней, чым звычайна.

Наталля кажа, што каронавірус змяшаў планы не толькі навучальныя, але і з выпускным.

– Дата і фармат нашага выпускнога ўвесь час ваганіся. Нам, вядома, гэта не падабалася, але што рабіць, сітуацыя ў свеце такая.

Па словах Наталлі, выпускны навучэнцаў музычнага каледжа прайшоў у вельмі сціплым фармаце.

– Прыйшоў у вучэбную частку, распісаўся, атрымаў дыплом. Да апошняга мы спадзяваліся, што зробяць хоць якую ды ўрачыстасць.

На працягу некалькіх месяцаў, распавядае Наталля, навучэнцам паступала розная інфармацыя аб правядзенні выпускнога: то дыпломы будуць уручаць у малой зале, то на падворку каледжа, але без бацькоў і сяброў, то яго ўвогуле не будзе.

– Гэта, вядома, нам не падабалася, але такая сітуацыя, – успамінае дзяўчына.

Наталля прыгадвае, што ўрачыстая частка выпускных у музычным каледжы праходзіць шыкоўна і прыгожа. Кожны год хадзіла паглядзець на выпускнікоў у прыгожых сукенках і касцюмах. Яна «чакала таго моманту, калі апынемся на месцы тых выпускнікоў».

– На жаль, гэтага не адбылося. Нехта прыходзіў забіраць дыплом у сукенцы, нехта ў шортах і джынсах. Не адчувалася гэта святочная атмасфера.

Пасля атрымання дыпломаў частка выпускнікоў адпачывала ў загарадным доме з куратарам **Алесяй Каролік**.

– Час там мы правялі вельмі весела, нягледзячы на няпоўны склад нашай групы. Я буду ўспамінаць гэты час з усмешкай на твары.

### Што далей?

«РГ» пацікавілася ў Наталлі, чым яна плануе заняцца пасля. Дзяўчына сказала, што плануе звязаць жыццё толькі з музыкай:

– Буду паступаць у Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі. Калі б была магчымасць, паступіла б за мяжу. Можа, пасля заканчэння акадэміі ўсё ж такі змагу выбрацца ў іншую краіну.

### Бліц-апытанка

**– Калі б не музыка, то кім бы сталі?**

– Не бачу сябе нідзе, акрамя музыкі. Таму я нават не ведаю, што адказаць.

**– Самая запамінальная падзея падчас навучання?**

– Паездкі за мяжу з сімфанічным аркестрам. Дзякуючы яму я хоць трохі ўбачыла свет.

**– Адным словам як бы апісалі час у каледжы?**

– Весела.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

У тэксце «У панядзелак працаваў у летніку, а ў суботу даведаўся пра каронавірус». Жыхар Астравеччыны расказаў, як захварэў на COVID-19», надрукаваным у №24 «Рэгіянальнай газеты» за 12 чэрвеня, пасада суразмоўцы-медыка павінна гучаць так: «Загадчык участковай бальніцы». Просім прабачэння ў чытачоў і герояў публікацыі.

**Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты».**


Пакуль запіс на экспрэс-тэсты ў Вілейскай ЦРБ прыпынілі. Але плануюць закупіць яшчэ тэсты.

# За суткі на платныя экспрэс-тэсты запісалася 120 чалавек

**Ад 12 чэрвеня ў Вілейскай ЦРБ з'явілася магчымасць рабіць платныя тэсты на каронавірус. І па словах намесніка галоўнага доктара па медабслугоўванні насельніцтва Сяргея Грынцэвіча, карыстаюцца гэтай магчымасцю людзі вельмі актыўна.**

ВІЛЕЙКА

– За першыя суткі на платныя экспрэс-тэсты запісалася 120 чалавек. Усё ўжо распісана. Тэсты пачалі рабіць у чацвер, 12 мая, і скончым у пятніцу, 19 мая, – расказаў карэспандэнту Сяргей Аляксандравіч.

Па яго словах, усе закупленыя тэсты да пятніцы рэалізуюць. Таму пакуль запіс прыпынены. Але Вілейская ЦРБ будзе закупляць экспрэс-тэсты яшчэ.

Нагадаем, што ад 12 чэрвеня экспрэс-тэст на каронавірус у Вілейскай ЦРБ мог зрабіць кожны ахвотны. Паслуга платная – 21 рубель 30 капеек. Вынік вам паведамяць адразу.

Тэст робяць па папярэднім запісе. Аплачваецца паслуга ў касе паліклінікі, дзе трэба прад'явіць пашпарт.

Як раней расказвала нашай газеце галоўны доктар Вілейскай ЦРБ **Ірына Макарава**, экспрэс-тэсты патрэбныя, каб разгрузіць лабараторыі.

– Зручнасць у тым, што вынік тэста мы бачым на месцы. Яго не трэба нікуды везці. Гэты тэст вызначае імунаглабуліны. Імунаглабулін М кажа пра тое, што чалавек у працэсе хваробы. Калі ж тэст вызначае імунаглабулін G, значыць чалавек ужо перахварэў і ў яго з'явіўся кароткачасовы імунітэт. Экспрэс-тэст можа быць адмоўным, можа вызначаць імунаглабулін М, можа – імунаглабулін – G, а можа і М, і G адначасова, – расказала галоўны доктар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## У Валожынскім лясгасе больш за ўсё казуль і баброў

ВАЛОЖЫН

Правялі ўлік асноўных відаў дзікай жывёлы, якія насяляюць тэрыторыю лесапаляўнічай гаспадаркі Валожынскага лясгаса.

Паводле гэтых дадзеных, разлічваецца план адстрэлу жывёлы на бягучы год.

Зімовы ўлік паказаў, што на тэрыторыі лесапаляўнічай гаспадаркі ёсць 75 ласёў, 100 высакародных аленяў, 235 казуль, 110 баброў, 3 дзікі, 2 ваўкі.

Колькасць насельнікаў застаецца практычна на адным узроўні ўжо некалькі апошніх год.

Сёлета дадзены дазвол на адстрэл 44 казуль. Паляванне на іх пачалося ад 15 мая. А вось на лася і аленя паляўнічы сезон адкрыецца з 20 жніўня.

**Паводле psl.by.**

## На БелАЭС даставілі перасоўную дызель-генератарную станцыю

На пляцоўку першага энергаблока БелАЭС даставілі перасоўную дызель-генератарную станцыю.

– У адпаведнасці з рэкамендацыямі МАГАТЭ, а таксама нацыянальным планам дзеянняў па выніках стрэс-тэстаў Беларускай атамнай электрастанцыі для павышэння яе бяспекі на пляцоўку першага энергаблока дастаўленая перасоўная дызель-генератарная станцыя, – паведаміла прэс-сакратар Міністэрства энергетыкі **Вольга Казловіч**.

Праектам АЭС вызначаныя тэхнічныя рашэнні па падлучэнні рэзервовай дызель-генератарнай станцыі ў выпадку неабходнасці.

– У перыяд эксплуатацыі першага энергаблока БелАЭС дызель-генератарная станцыя будзе знаходзіцца ў стане пастаяннага дзяжурства і, калі такая неабходнасць паўстане, – забяспечыць працу тэхналагічнага абсталявання сістэм бяспекі першага энергаблока, – патлумачыла прэс-сакратар.

Паводле яе слоў, цяпер на першым энергаблоку праводзіцца ўвесь неабходны комплекс работ па падрыхтоўцы да этапу фізпуска.

**Паводле БелТА.**

## Прыедзе міністр эканомікі

ВІЛЕЙКА

26 чэрвеня ў Вілейскі райвыканкам прыедзе міністр эканомікі Беларусі **Аляксандр Чарвякоў**.

Ад 11:00 у райвыканкаме па адрасе: **вуліца Партызанская, 40** ён правядзе прыём грамадзян і юрыдычных асоб. Запісацца на прыём трэба загадзя – ад 17 да 19 чэрвеня па тэлефоне **8 (01771) 5-37-22**, паведамляюць у райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**4 000 000 000** рублёў

на такую суму прадукцыі выпусцілі беларускія прадпрыемствы лёгкай прамысловасці ў 2019 годзе.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.06 | 18.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.3721 | **2.3812** |
| Еўра | 2.6941 | **2.6831** |
| Злоты, 10 | 6.0334 | **6.0092** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4532 | **3.4232** |
| Грыўня, 100 | 8.9067 | **8.8892** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **10.06** | **17.06** |
| Еўра | 2.6500/2.7500 | **2.6500/2.7500** |
| Долар ЗША | 2.3300/2.4000 | **2.3400/2.4100** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 10.06 | 17.06 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **20,00** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,68 | **7,80** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,20 | **6,20** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **1,90** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **1,50** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **1,79** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,90** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,60 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,90 | **2,00** |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Буракі маладыя, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,80 | **6,80** |
| Радыс, пучок | – | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,30 | **5,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,99 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **6,00** |
| Гранат, 1 кг | – | **6,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Ківі, 1 кг | 8,00 | **5,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Персікі, 1 кг | 6,90 | **6,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 10,50 | **12,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Па дарозе на Мядзел у аварыі загінулі трое мужчын

МЯДЗЕЛ

У Мінскім раёне па дарозе ў Мядзел у ДТЗ загінулі трое мужчын.

11 чэрвеня каля 20:15 на 28 кіламетры аўтадарогі Р-58 кіроўца «Мерсэдэса» на расійскіх нумарах ехаў з Мінска ў кірунку Мядзела. Па папярэдняй інфармацыі, не справіўся з кіраваннем, выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з аўтамабілем «Таёта». У выніку ДТЗ кіроўца і двое пасажыраў «Таёты» загінулі на месцы.

Кіроўца «Мерсэдэса» не пацярпеў, а вось яго жонку з двума дзецьмі, 9 і 17 гадоў, з траўмамі даставілі ў бальніцу.

На месцы здарэння працавалі следчыя, эксперты ГКСЭ, выратавальнікі і медыкі, работнікі ДАІ.

**Прэс-служба МУС.**

## На Вілейскім вадасховішчы ледзь не патануў мужчына

ВІЛЕЙКА

Увечары 11 чэрвеня ў Вілейскім вадасховішчы каля вёскі Матчыцы перакулілася лодка, стаў тануць чалавек.

Мужчыну, які тануў, на дапамогу выехалі выратавальнікі. Па папярэдніх дадзеных, пенсіянер лавіў рыбу з маторнай лодкі на адлегласці каля 300 метраў ад берага. Моцны вецер перакуліў лодку, мужчына апынуўся ў вадзе. На ім была выратавальная камізэлька.

Мужчыну даставілі на бераг. Пасля агляду «хуткай» яго шпіталізавалі.

**Паводле МНС.**

## Дырэктара грамадскай арганізацыі падазраюць у крадзяжы

ВІЛЕЙКА

Пракурор Вілейскага раёна **Вадзім Шукрынаў** распачаў крымінальныя справы аб службовым падлогу і крадзяжы грошай арганізацыі.

Фігурантам крымінальных спраў стаў 52-гадовы дырэктар адной з мясцовых грамадскіх арганізацый. Жадаючы заваладаць грашыма ўстановы, ён фіктыўна працаўладкаваў прыбіральшчыка, а таксама заключыў уяўныя дагаворы падраду на выкананне розных работ трыма грамадзянамі. Але гэтыя людзі ва ўстанове ніколі не былі.

Пасля падазраваны шляхам выкарыстання службовых паўнамоцтваў завалодаў грашыма арганізацыі. Гэта не менш за 2,1 тысячы рублёў. Грошы налічылі як заробак і ўзнагароджанне за нібыта выкананыя работы.

**Каб схаваць крадзеж, дырэктар даручыў скласці, а затым падпісаў фіктыўныя дакументы.**

У іх былі загадзя ілжывыя звесткі аб аб'ёмах і відах выкананых работ, выплаце грошай людзям, якія іх не атрымлівалі і працы не выконвалі. Супрацьпраўная дзейнасць працягвалася ад студзеня 2019 года да мая 2020.

Для арганізацыі папярэдняга расследавання крымінальныя справы накіравалі ва ўпраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці.

**Паводле БелТА.**

## Купіў «валюту» для «танчыкаў» па картцы знаёмага

ВІЛЕЙКА

Пракуратура Вілейскага раёна накіравала ў суд справу па абвінавачванні 19-гадовага вілейчука ў крадзяжы 45 рублёў з банкаўскай карткі знаёмага. Пра абставіны справы расказаў намеснік пракурора Вілейскага раёна ***Андрэй Жукоўскі***.

– 19-гадовага жыхара Вілейшчыны падазраюць у тым, што ў канцы мая ён зняў 45 рублёў з карткі знаёмага. Нумар карткі ён ведаў, бо неаднаразова пазычаў грошы ў знаёмага, а пасля пералічваў на яе доўг. За дзень да крадзяжу пацярпелы быў дома ў фігуранта. Калі гаспадар карткі адышоў, падазраваны пагледзеў і запомніў CVV-код – тры лічбы на адваротным баку карты.

**Нумара карты і CVV-кода было дастаткова, каб разлічыцца ў інтэрнэце, – растлумачыў Андрэй Жукоўскі.**

Па яго словах, за 45 рублёў з карткі знаёмага фігурант купіў валюту «золата» для камп'ютарнай гульні World Of Tanks.

Падазраванаму прад'явілі абвінавачанне па частцы 2 артыкула 212 Крымінальнага кодэкса.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота pxhere.com.

Тушы загінулых жывёл фігурант завёз з месца здарэння да сябе дамоў.

# Будуць судзіць за незаконную перавозку туш дзікоў

**Пракурор Вілейскага раёна пачаў крымінальную справу аб незаконным транспартаванні і разбіранні дзікіх жывёл па частцы 3 артыкула 282-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Падазраваны – кіраўнік тэрытарыяльнага падраздзялення Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.**

ВІЛЕЙКА

Устанавілі, што 27 сакавіка ў Вілейскім раёне ў выніку ДТЗ загінулі тры дзікі. Пры выкананні службовых абавязкаў 52-гадовы кіраўнік выехаў на месца здарэння як прадстаўнік грамадскай арганізацыі. Пры гэтым неабходныя дакументы аб утылізацыі ён не аформіў, паклаў тушы загінулых жывёл у аўтамабіль і павёз дамоў, дзе пасля разабраў.

Згодна з Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, пры выяўленні ў паляўнічых угоддзях, у тым ліку на дарогах, параненых, траўмаваных або загінулых дзікіх жывёл забараняецца самавольна, без афармлення адпаведных дакументаў, раскрыжоўваць або перамяшчаць (транспартаваць) іх тушы і выкарыстоўваць прадукцыю (мяса, шкуру, рогі). У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 чэрвеня 2008 года №348 «Аб таксах для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, прычыненай навакольнаму асяроддзю» кошт аднаго дзіка складае 120 базавых велічынь.

Для арганізацыі папярэдняга расследавання пракурор Вілейскага раёна накіраваў крымінальную справу ва ўпраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці.

**Паводле Генеральнай пракуратуры Беларусі.**

## Мужчына падчас сэксу скраў у партнёркі банкаўскую картку

ВІЛЕЙКА

Прыгавор за некалькі злачынстваў адразу 35-гадоваму жыхару Вілейшчыны абвясцілі 15 чэрвеня.

У судзе разглядалі два эпізоды. Першы здарыўся 26 студзеня. Прайшло менш за месяц пасля таго, як мужчына вярнуўся з турмы. З суседам яны выпівалі, а потым фігурант пайшоў дамоў. Прыгадаў, што нядаўна сусед купіў матаблок. Фігурант узяў лом, пашкодзіў дзвярную каробку і замок і трапіў у гараж. Адчапіў прычэп ад матаблока, але не змог запусціць рухавік. А каціць матаблок з-за алкагольнага ап'янення мужчына не змог. У выніку атрымаўся толькі замах на крадзеж.

Другі эпізод здарыўся 28 лютага тут жа, на Вілейшчыне. Фігурант разам з пацярпелай і сваім знаёмым выпівалі. Знаёмы пайшоў спаць у іншы пакой. Па ўзаемнай згодзе фігурант з пацярпелай вырашылі ўступіць у палавую сувязь.

Падчас сэксу мужчына ўбачыў у кішэні джынсаў партнёркі пластыкавую картку і незаўважна яе забраў.

Калі ўсё скончылася, мужчына сышоў. У гэты ж дзень з карткі пацярпелай ён патраціў 40 рублёў. На заўтра – яшчэ 31 рубель 61 капейку.

На судзе мужчына прызнаў віну па ўсіх эпізодах, раскаяўся. Па словах памочніка пракурора Вілейскага раёна **Наталлі Стрэж**, мужчыну асудзілі на паўтара года зняволення. Таксама ён будзе лячыцца ад алкагалізму. Меру ўтрымання пакінулі ранейшай – заключэнне пад варту.

Пракуратура Вілейшчыны нагадвае грамадзянам, каб былі пільнымі, сачылі за сваімі рэчамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль сутыкнуўся з матацыклам

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

ДТЗ адбылося 11 чэрвеня ў Вілейцы на вуліцы 17 Верасня каля 21 гадзіны, падчас залевы.

Віляйчук на «Сеаце» ехаў па вуліцы. Ён не справіўся з кіраваннем, бо не ўлічыў умовы надвор'я і асаблівасці свайго аўтамабіля. У выніку выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуся з матацыклам.

За рулём матацыкла быў кіроўца-маладзечанец і пасажырка, паведамляюць у РАУС Вілейкі. І пасажырку, і кіроўцу матацыкла даставілі ў Вілейскую бальніцу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзяўчына загінула пад цягніком

СМАРГОНЬ

У Смаргонскім раёне пад цягнік трапіла 20-гадовая дзяўчына. Яна загінула, паведамілі ў МУС Беларусі.

Трагедыя адбылася 13 чэрвеня прыблізна ў 18 гадзін.

– Непадалёку ад прыпыначнага пункта «Солы» пад цеплавоз трапіла 20-гадовая жыхарка Смаргонскага раёна. Дзяўчына загінула. Машыніст экстранна затармазіў, аднак пазбегнуць наезду не ўдалося, – распавялі ў МУС.

**Паводле БелТА.**

# Праца ў сельскай гаспадарцы – для тых, хто мае сілу волі

**У гэтым перакананы старшыня навукова-вытворчага аграпрамысловага кааператыва «Конвэкс-Бел» Аляксандр Паўлюкоўскі. Ён падзяліўся, як узначаліў арганізацыю і што неабходна, каб кіраваць паспяховым сельскагаспадарчым прадпрыемствам.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Праца ў аграпрамысловым комплексе – гэта асаблівы стан душы, мяркуе Аляксандр Паўлюкоўскі.

«Конвэкс-Бел» знаходзіцца ў вёсцы Папоўшчына непадалёк ад Радашкавічаў. Аляксандр закончыў Красненскую сярэднюю школу, у Мінску тэхнікум бізнесу і права, а пасля Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Атрымаўшы спецыяльнасць інжынера-праграміста, прыйшоў у сельскагаспадарчую сферу.

Кааператыў «Конвэкс-Бел» заснаваў бацька ў пачатку 1990-х. Аляксандр прыйшоў сюды дапамагаць бацьку ў 2010 годзе на пасаду галоўнага інжынера, ад 2014 года выконваў абавязкі старшыні. Ад 2017-га ўзначальвае арганізацыю ў якасці старшыні кааператыва.

### Кірункі працы

Кааператыў займаецца і раслінаводствам, і жывёлагадоўляй, займае плошчу ў 560 гектараў. З іх на 15 вырошваюць бульбу, на пяці – буракі, на двух – капусту, на 20 – грэчку. Астатняе засяваюць збожжам, пераважна ячменем і пшаніцай.

З гаспадарак кааператыў бярэ цялят, каб гадаваць бычкоў. Адкормліваць іх старающца ўласнай прадукцыяй, што застаецца пасля продажаў.

### Калі выручае крэдыт

У сельскай гаспадарцы ёсць свае складанасці. Многае залежыць ад урадлівасці, надвор'я.

**Калі прыходзіць час пасяўной, паўстае пытанне, дзе браць на яе сродкі. Часам не хапае грошай на ўгнаенні. У такіх выпадках выручаюць крэдыты.**

Не заўсёды проста знайсці работнікаў, таму кіраўнік імкнецца арганізаваць работу так, каб ручной працы было як мага менш. Чым і ў якой прапорцыі засяваць поле, вырашае рынак – што больш запатрабаванае, тое і сеюць.

Кліенты, якім збываюць прадукцыю, ёсць як пастаянныя, так і новыя. Некаторыя застаюцца з кааператывам з году ў год. Збыт – самая складаная частка працы, менавіта з гэтым і не зашкодзіла б падтрымка.

**– Вырасціць мы ўсё зможам, што трэба, – кажа Аляксандр. – Пытанне, як гэта збыць.**

### Асаблівасці сезона

Усяго ў гаспадарцы сярэднясьпісачная колькасць работнікаў – 15 чалавек.

**Некаторыя працуюць пастаянна, часам запытваюць кадры з біржы працы. Падчас уборачнай патрабуецца вельмі шмат сіл, і немагчыма без ручной працы.**

Знайсці дастаткова людзей дапамагае і сарафаннае радыё.

Але і пасля ўборачнай у гаспадарцы хапае працы – неабходна даглядаць быкоў, займацца рамонтам, глядзець за ўсім, што патрабуе ўвагі. За адзін сезон усяго не схопіш, падсумоўвае кіраўнік.

### Хто можа стаць фермерам

Займацца сельскай гаспадаркай – справа няпростая, упэўнены Аляксандр. Неабходна мець не толькі фізічную сілу, але і сілу волі.

– Каб гэтым займацца, трэба любіць назіраць за тым, як расце тое, што ты пасадзіў, – разважае старшыня. – Праца ў сельскай гаспадарцы – гэта вельмі цяжкая праца. Займае шмат часу, пастаянна трэба вырашаць розныя пытанні. А летам, калі ўсе адпачываюць, самы гарачы сезон.

**Не кожны зможа – усе едуць адпачываць на возера з шашлыкамі, а ты праліваеш пот на полі.**

Таму, каб працаваць у сельскай гаспадарцы, трэба мець асаблівы стан душы.

*Старонка падрыхтаваная ў межах сумеснага праекта «Будуем мару з «Белаграпрамбанкам».*

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by


Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**


## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Rover 214, 1997 г.в., 1,4 б, 170 тысяч прабегу, цёмна-сіні колер, люк, цэнтр. замок, шклопадымальнікі. Добры стан. Цана 3600 рублёў. Т. (8-029) 5543938.*
- Нісан-Прымера Р-11, 1996 г.в., 2,0 бензін. Т. (8-033) 6382601.*
- Опель-Вектра, 2001 г.в., 1,8 газ-бензін. Усе пытанні па тэлефонах (8-044) 4955079, (8-029) 2639025.*
- Рэно-19, седан, 1996 г.в., 1,4 бензін, 1200 рублёў. Т. (8-029) 3466145.
- Рэно-Кліа, 1997 г.в., 1,2 бензін, прабег 158 тысяч км. Т. (8-033) 6649242.*
- Форд-Гэлаксі, 1,9 ТДІ, 2001 г.в., 85 кв., 115 конскіх сіл. Цана дагаворная. Маладзечна. Т. (8-029) 5717386.*
- Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*
- Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*
- Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***
- Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-033) 6612163.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- Дом новы ў а.г. Хажова Маладзечанскага раёна, дом гатовы да пражывання. Т. (8-029) 6678710.*
- Дом. Самаробны трактар. Маразільнік. Будслаў. (8-029) 379-18-96.
- Дом у в. Спягла Іжанскага с/с Вілейскага раёна. Т. (8-029) 8562654.*
- Дом у Вілейцы. Т. (8-0290 7609173.*

### ЗДАМ

- Гараж 6х9 м у ГК №33 па вул. Міру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5753932.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

- Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*
- «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Анол С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*
- Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Бынлінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*
- Электрамантажныя работы. Хутка. Якасна. Нядорага. ІП Мандрык А.А. УНП 692246355 Т. (8-033)6344885.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Магчыма растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*
- Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Дойная карова; свойскае малако – магчымы опт да 100 літраў. Т. (8-029) 2725536.*
- Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*
- Кураняты бройлеры ROSS 308 свойскія. Вывядзенне 16 чэрвеня. Кураняты вакцынаваныя. Магчыма дастаўка. Т. (8-029) 7672496, (8-029) 7672490.*
- Пасека, 9 вуллёў. Цана дагаворная. Вілейскі раён. Т. (8-029) 5717386.*
- Пчоласем'і з вуллямі і без вулляў і інвентар у в. Сосенкі Вілейскага раёна. Т. (8-029) 3208690.
- Вулей новы. Т. (8-029) 9950326.*

**Іншае**

- Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Бульбу буйную ад 10 мяшкоў. Т. (8-029) 9939955.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

- Арганізацыі ТАА «Мясныя рэзервы» патрабуецца вадзіцель катэгорыі ВС з досведам працы. Дастаўка прадукцыі на гандлёвыя аб'екты. Поўны сацыяльны пакет. З/плата па выніках сумоўя. Т. (8-044) 5444170.*
- Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Скашу траву любой складанасці. Т. (8-033) 3949384.*
- Шукаю работу па рамонце драўляных дамоў: замена ніжніх бярвенняў, рамонт часткова альбо поўны, рамонт падмурка, даху. Кансультацыя. Выезд на аб'ект. Т. (8-029) 8745410.*

# У Маладзечне знайшлі парушэнні маркіроўкі ЕАС

**Прадукцыя, якая ідзе на продаж на тэрыторыі Еўразійскага эканамічнага саюза, павінна мець маркіроўку адзіным знакам звароту ЕАС на рынках дзяржаў, што ўваходзяць у Мытны саюз. Акрамя выпадкаў, калі на тавар не распаўсюджваецца дзеянне тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза.**




Фота lifehacker.ru

**Правярайце не толькі налепкі знака адпаведнасці. Пры неабходнасці прасіце ў прадстаўніка гандлёвага аб'екта дэкларацыю або сертыфікат адпаведнасці.**

ЕАС расшыфроўваецца як Еўразійская адпаведнасць (Eurasian Conformity). Краіна паходжання тавару неістотная. Таму імпартная прадукцыя падлягае абавязковай маркіроўцы ў адпаведнасці з патрабаваннямі тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза (ЕАЭС).

Прынята 47 тэхнічных рэгламентаў саюза. Асноўныя з іх ахопліваюць харчовую прадукцыю, тавары лёгкай прамысловасці, тавары для дзяцей і падлеткаў, цацкі, парфумерна-касметычную, электратэхнічную прадукцыю.

Адзіны знак звароту сведчыць пра тое, што прадукцыя, маркіраваная ім, прайшла ўсе ўстаноўленыя ў тэхнічных рэгламентах Мытнага саюза працэдуры ацэнкі (пацвярджэння) адпаведнасці і адпавядае патрабаванням усіх тэхнічных рэгламентаў, што распаўсюджваюцца на гэту прадукцыю.

Пры правядзенні маніторынгаў пры рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці, тавараў для дзяцей і падлеткаў, у магазінах нізкіх цэн аддзел дзяржнагляду Маладзечна знайшоў факты неправамернай маркіроўкі прадукцыі адзіным знакам звароту на рынку дзяржаў-удзельніц Мытнага саюза, Еўразійскага эканамічнага саюза. Іх адпаведнасць патрабаванням тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза і Еўразійскага эканамічнага саюза не пацверджаная ва ўстаноўленым парадку.

Работнікі суб'ектаў гаспадарання наносілі маркіроўку з указаннем знака ЕАС на прадукцыю, на якую не мелі дакументаў пацвярджэння адпаведнасці – сертыфікаты адпаведнасці і дэкларацыі аб адпаведнасці. Гэтым уводзілі ў зман спажыўцоў звесткамі пра бяспеку тавару для чалавека і навакольнага асяроддзя.

Па выніках маніторынгаў суб'ектам гандлю забаранілі прадаваць неадпаведную прадукцыю і прымянілі меры адміністрацыйнага характару.

Каб пакупка была бяспечнай і ў радасць, вывучыце сертыфікат адпаведнасці або дэкларацыю аб адпаведнасці на тавар, што вас цікавіць. Дакументы вам абавязаныя даць прадстаўнікі гандлёвага аб'екта па вашым патрабаванні.

**Святлана БУЙНОВА,**
**намеснік начальніка аддзела дзяржнагляду Маладзечна.**

## Дэзынфекцыя, свежае паветра, штодзённы медагляд

Ад 1 ліпеня на Вілейшчыне пачне працаваць кругласутачны летнік.

Летнікі з дзённым наведваннем працуюць на Вілейшчыне ад 1 чэрвеня. А ад 1 ліпеня пачне працаваць кругласутачны летнік «Казка».

Міністэрства адукацыі і Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва для ўсіх летнікаў распрацавалі і зацвердзілі часовыя рэкамендацыі, каб папярэдзіць завоз і распаўсюджанне каронавіруса і іншых захворванняў. Усе рэкамендацыі будуць няўхільна выконвацца, паведамляюць ва ўпраўленні адукацыі райвыканкама.

У кругласутачным лагеры «Казка» арганізуюць працу ў закрытым рэжыме, будзе выконвацца сацыяльнае дыстанцыяванне, у кожным атрадзе будзе не больш за 15 чалавек. Увесь час будуць дэзынфіцыраваць і праветрываць памяшканні.

**У праграме для дзяцей прадугледжана, што яны больш часу будуць праводзіць на свежым паветры.**

Штодня дзяцей будуць аглядаць, правяраць стан здароўя, наяўнасць вірусных інфекцый. Падчас змены выхавальнікі, педагагічныя і іншыя работнікі будуць пастаянна знаходзіцца на тэрыторыі аздараўленчага лагера.

Адпрацаваны механізм дзеянняў на выпадак, калі інфекцыю знойдуць у дзіцяці або педагога.

Нагадаем, што з захаваннем усіх мер бяспекі на Вілейшчыне працуе дзіцячы цэнтр «Надзея». А ў «Зубраняці» на Мядзельшчыне – ёсць выпадкі каронавіруса.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Маладзечне гарэў будынак, які не выкарыстоўваўся

Пра гэта раскaзалі ў ГРАНС Маладзечна.

16 чэрвеня каля палова дзявятай вечара на нумар 101 Маладзечанскага ГРАНС па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра пажар у Маладзечне, па вуліцы 17 Верасня.

**Пасля прыбыцця да месца выкліку выратавальнікаў устанавілі, што гарыць не эксплутаваны аднапавярховы будынак. Пажар знішчыў столь, закурыў сцены, пашкодзіў маёмасць. Прычыну высвятляюць. Пацярпелых няма.**

МНС папярэджвае: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на 101 або 112, не забывайце ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Якія парушэнні знайшлі падчас праверкі мерапрыемстваў супраць распаўсюджання COVID-19

**МАЛАДЗЕЧНА**

Спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі правялі агляд 74 суб'ектаў гаспадарання ў Маладзечне, каб ацаніць прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на недапушчэнне пагаршэння эпідэміялагічнай абстаноўкі.

Устанавілі парушэнні ў 100% выпадкаў. Кіраўнікам суб'ектаў гаспадарання накіравалі 29 прадпісанняў і 13 рэкамендацый аб выпраўленні парушэнняў, 14 указанняў аб правядзенні санітарна-супрацьэпідэміялагічных мерапрыемстваў, вынеслі 18 пастаноў па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні на агульную суму штрафных санкцый 4590 рублёў.

Парушэнні носяць тыповы характар і сведчаць пра нядобрасумленнае выкананне абавязкаў, ускладзеных на службовых асоб.

Правядзенне санітарна-супрацьэпідэміялагічных мерапрыемстваў, накіраваных на папярэджанне распаўсюджання інфекцыі COVID-19 у Маладзечанскім раёне працягваецца.

**Паводле Кацярыны БУДЗЬКО, загадчыка аддзялення, доктара-гігіеніста аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## Мінздароўя Літвы назвала 45 краін, прыезд з якіх амаль немагчымы. Мы ў гэтым спісе

Міністэрства аховы здароўя Літвы зацвердзіла спіс 45 краін, у якіх за апошнія 14 дзён узровень захворвання на каронавірус быў вышэйшы за 25 выпадкаў на сто тысяч жыхароў. Гэты спіс будзе абнаўляцца кожны тыдзень. Яго будзе аб'яўляць Міністэрства аховы здароўя, піша Delfi.lt.

У спісе ў асноўным не краіны Еўрасаюза і Еўрапейскай эканамічнай зоны. Людзі, якія вярнуліся з гэтых краін у Літву, павінны 14 дзён правесці ў самаізаляцыі. Акрамя таго, яны на працягу 48 гадзін павінны зарэгістравацца ў Нацыянальным цэнтры грамадскай аховы здароўя, падаць свае дадзеныя спецыялістам.

Замежнікі з гэтых краін у Літву могуць прыехаць толькі ў выключным выпадку. Тыя, хто атрымае дазвол на прыезд, павінны 14 дзён правесці ў ізаляцыі

У спіс уваходзяць такія краіны, як Афганістан, Аргенціна, Арменія, Азербайджан, Бразілія, ЗША, Ірак, Джыбуці, ААЭ, Іран, Гандурас.

З еўрапейскіх краін гэта Андора, Сан-Марына, Малдова, Гібралтар, Паўночная Македонія, Партугалія, Швецыя і, безумоўна, Беларусь, дзе 119 выпадкаў на 100 тысяч жыхароў за апошнія 14 дзён.

**Паводле delfi.lt.**

# Чым жылі малыя дубінцы ў 1950-60-х гадах

ВАЛОЖЫН

**На дварэ 21 стагоддзе. На вуліцы гуляе дзятва. А я прыгадваю сваё дзяцінства 1950-60-х гадоў.**

### Са школай пачыналася сельскагаспадарчая праца

Памятаю першае верасня. Дзятва хвалюецца. Сёння – лінейка, у школе першы званок. Дзяўчынкі – у белых фартухах, у валасах – пышныя банты, хлопчыкі – у белых кашулях, усе з букетамі. Ім услед глядзяць з зайздрасцю тыя, каму яшчэ не споўнілася сем гадоў.

Разам са школьнай парой пачыналася і пара ўборкі ўраджаю. Без нашай дзіцячай дапамогі справіцца было немагчыма. Таму нам даводзілася спалучаць вучобу і працу на калгасных палетках. Гэта цяпер бульбу капаюць камбайны, ды і для ўборкі буракоў, морквы ёсць прыстасаванні. А ў той час такой тэхнікі ў калгасе не было. Бульбу разворвалі канём, а мы маленькімі ручкамі разграбалі зямлю і спрытна збіралі ўраджай. Баяліся, каб не адстаць ад дарослых.

Калі вярталіся з калгасных палёў, нас чакаў свой агарод. Коні былі занятыя на калгасных работах, таму дома часцей прыходзілася капаць бульбу капачом ці лапатай.

### «Жмуркі», «Цыбулька», «Фанцікі»

Вечарам мы зморааныя вярталіся ў хаты. Але пасля кубка сырадою у нас адкрывалася другое дыханне. І вось мы ўжо на вуліцы. Гучаць смех, песні, пачынаюцца гульні: «Жмуркі», «Цыбулька», «Фанцікі», «Вайна», «Чыжык», «Пікар», «Хаванкі»…

Дзяўчынкі любілі гуляць у «Класікі». Мы называлі гэту гульню «ў шкельца». Калі ты меў прыгожае шкельца, дык табе так усе зайздросцілі, бо яго можна было абмяняць нават на цукерку.

Заканчвалася ўборка бульбы, пачыналася ўборка агародніны і лёну. Таму ўсю восень, да самых маразоў, у нас днём не было вольнай хвілінкі.

### Сумёты дасягалі платоў

Зімой надыходзіў час адпачынку: матулі пралі воўну, плялі паясы, ткалі палавікі, посцілкі. Бацькі рамантавалі плугі, сталярнічалі, прыводзілі ў парадак конскую збрую. Першы снег быў для нас вялікім святам. Зімой сумёты дасягалі ўзроўню платоў. Ад сваіх дамоў і па вуліцах людзі хадзілі як па тунэлях. Аж да сакавіка нельга было ўбачыць кавалачка зямлі.

Зіма была часам забаў для дзятвы. Асноўная – лыжы. Праўда, без лыжных чаравікаў. Лыжы чапляліся проста на валёнкі. У Дубіне было шмат майстроў, таму валёнкі мы мелі мяккія і цёплыя. Каля лесу, насупраць школы, была Азаліна гара. З'язджалі з яе самыя смелыя, і не толькі таму, што з'езд быў імклівы. Лыжня выходзіла роўна ў лес, і трэба было не ўехаць у сасну альбо елку.

На мурагах было невялікае азярцо. Калі яно замярзала, можна было катацца на каньках. Іх майстравалі нашы бацькі. Гэта былі трохвугольныя драўляныя брусочкі, па вострым канце якіх прымацоўвалі дрот. Вось ён і слізгаўся па лёдзе. А так званыя канькі прымацоўвалі вяроўкамі да абутку.

Яшчэ мы любілі катацца на санках і прэнце – прыстасаванні, якое майстравалі вясковыя ўмельцы з тоўстага металічнага прута, сагнутага ў трох месцах. Да ніжніх палазоў, якія слізгаліся па снезе, прыварвалі пласціны для ступняў, а за сярэдні згіб мы трымаліся рукамі.

### Хлопчыкі касілі, дзяўчынкі жалі

У сакавіку вярталіся шпакі, звінелі ручаі. Без рыбацкіх ботаў нельга было перайсці. Таму ў школе ў гэты час былі канікулы. Разам з вясной прыходзіла пасадка агародаў, бульбы. Пасля праполка, нарыхтоўка сена, торфу, жніво, уборка лёну. Хлопчыкі побач з бацькамі касілі, вучыліся кляпаць касу, а дзяўчынкі жалі сярпом. У кожнай з нас на левай руцэ, у асноўным на мезенцы, ёсць пацалунак сярпа.

У вёсцы было мірна і ціха, таму нашы бацькі дазвалялі нам аж да заходу сонца бавіцца на вуліцы. Яны, канешне, турбаваліся за нас. Але разумелі, што праца працай, а дзіцячыя забавы павінны быць.

Не было тэлебачання, інтэрнэту. Толькі радыё, якое з раніцы да вечара апавядала пра стаханаўцаў, вялікі ўраджай і высокія надоі… Я ўжо хадзіла ў сёмы клас, калі ў вёсцы з'явіўся першы тэлевізар. Усе суседзі збіраліся, каб паглядзець на цуд, і здзіўляліся, як гэта там размаўляюць, рухаюцца. Экран быў чорна-белы і вельмі маленькі. Потым спрабавалі зрабіць тэлевізар каляровым. Для гэтага мацавалі каляровую пласціну, якая была зверху блакітнай, а знізу – зялёнай.

Не было ў той час і спартыўных пляцовак. Усё рабілі самі. Самую вядомую ў мясцовасці спартыўную пляцоўку хлопчыкі з дапамогай бацькоў зрабілі на мурагах. Тут праводзілі спаборніцтвы па футболе паміж арлоўцамі і канчаннямі, часта далучаліся дзеці з Баяраў і Вяршыцаў. Меншая дзятва побач гуляла ў два капітаны, валейбол. На нашым двары падлеткі наладзілі пляцоўку для скачкоў у даўжыню, у вышыню, турнік…

### У сераду, пятніцу і выхадныя – танцы

Раслі мы – мяняліся нашы інтарэсы. Бацькам цяжка было ўтрымаць нас. А клуб быў далёка, аж у Вузбалаці. І вось вялікі падарунак зрабілі тры хлопчыкі – **Генадзь Мучынскі**, **Уладзімір Вашкевіч** і мой брат, **Аляксандр Мучынскі**. На зароблены ў калгасе грошы купілі сабе гармонікі, навучыліся іграць. Генадзь прапанаваў на нашым двары зрабіць танцавальную пляцоўку. Мы з ім падрыхтавалі аб'явы і на роварах паехалі на Юрздыку, у Рачаняты, Чабаі, Ганчыцы і расклеілі іх. Калі па дарозе бачылі падлеткаў, то запрашалі на танцпляцоўку. Вечарам двое сяброў ігралі, а я з трэцім ці з сяброўкай танцавалі танга. Так было толькі першы тыдзень, а потым да нас далучаліся і далучаліся. Уся акаліца ведала, што ў сераду, пятніцу і выхадныя на двары ў **Барысавіча** танцы. Да нас прыходзілі і дарослыя.

Дапамагалі ладзіць вечары **Уладзімір Косік**, **Анатоль Багуцкі**. Яны ігралі на баяне. На танцпляцоўку нельга было прыходзіць нецвярозым, брыдкасловіць. Ладзілі гульні, спаборніцтвы, хто каго ператанцуе.

### Прагрэс – гэта добра. І ўсё ж…

У маё дзяцінства ў лесе было шмат чарніц, грыбоў. У выхадныя лес быў месцам для спатканняў. Бацькі не баяліся адпускаць у лес адных дзяцей, бо ведалі, што за першай сасной абавязкова сустрэнуць суседку ці суседа.

За гэты час многае змянілася: зачыненая школа, няма мурагоў, якія расцягваліся ад калгаснага двара ўздоўж усёй вёскі, адрадзілася ў наш час асушанае балота. На палі прыйшла тэхніка. Прагрэс – гэта добра. Але шкада, што мы аддаліліся ад зямлі.

**Марыя МУЧЫНСКАЯ,**
**Дубіна.**



Фота pixhere.com.

«Класікі» былі адной з любімых гульняў дзяўчынак у Дубіне.

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Таямніца сямі сясцёр»



Фота film.ru.

**Фільм-антыўтопія рэжысёра Томі Вірколы. Сцэнарый напісалі Макс Боткін і Кэры Уільямсан. У галоўных ролях зняліся Нумі Рапас, Глен Клоўз і Уілам Дэфо. Фільм выйшаў у 2017 годзе.**

## Сюжэт

У недалёкай будучыні свет перажывае найманейшы ў гісторыі дэмаграфічны крызіс: планета перанаселеная, з кожным днём колькасць зямлян імкліва павялічваецца.

Каб справіцца з сітуацыяй і выратаваць планету, грамадскі дзеяч і спецыяліст па захаванні відаў Нікалет Кейман прапанавала ўраду палітыку «адна сям'я – адно дзіця».

Гэтая палітыка была рэалізаваная ў «Законе аб размеркаванні дзяцей». З гэтага часу з сем'яў, дзе новае правіла парушаецца, дзяцей адбіраюць, каб пагрузіць у крыясон да лепшых часоў. За выкананнем закона сочыць Бюро размеркавання дзяцей: паўсюль у горадзе расстаўленыя пункты праверкі, грамадзянам выдаюць апазнавальныя бранзалеты, якія яны абавязаны насіць.

На фоне гэтага ў сям'і містэра Сэтмана нараджаецца сем дзяўчынак-блізнятак. Яго дачка памерла пры родах, і Сэтман вырашае захаваць усіх унучак. Ён назаве іх Панядзелак, Аўторак, Серада, Чацвер, Пятніца, Субота і Нядзеля. Яны змогуць выходзіць з дому толькі ў дзень, які адпавядае іх імя. І за сценамі дома ўсе яны – адзін чалавек па імі Карэн Сэтман. Гэты план дзейнічае на працягу трыццаці гадоў, пакуль аднойчы не знікае Панядзелак.

## Акцёрскі склад

**Нумі Рапас** – шведская актрыса – выканала ролю ўсіх сямі сясцёр. **Уілам Дэфо** атрымаў ролю Тэранса Сэтмана, дзеда сямі сясцёр. **Глен Клоўз** стала галоўным антаганістам у фільме – кіраўніком Бюро размеркавання дзяцей.

Асноўныя і другасныя ролі сыгралі акцёры з розных краін – ад Нарвегіі і Швецыі да Нігерыі і Туніса.

## Цікавыя факты

Фільм цалкам знялі ў Румыніі за 94 дні.

У англамоўным варыянце некалькі разоў змянялі назву фільму. Спачатку гэта была What happened to Monday? («Што адбылося з Панядзелкам?» ці «Што адбылося ў панядзелак»), а потым змянілі на Seven Sisters («Сем сясцёр»).

Арыгінальны сцэнарый Макса Боткіна знаходзіўся ад 2010 года ў Чорным спісе лепшых сцэнарыяў. Гэты спіс уключае ў сябе галоўныя сцэнарыі яшчэ нявыдадзеных фільмаў. Фільмы з Чорнага спісу, якія потым выпусцілі, сабралі агулам больш за 25,54 мільярда долараў, намінавалі на 241 прэмію «Оскар» і 205 «Залатых глобусаў».

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 22 ИЮНЯ**

**7.00, 15.25, 21.10, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.35** «Мульт-парад».
**7.30, 15.30, 17.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ГРОЗОВЫЕ ВОРОТА».**
**8.25, 20.00** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** Д/ф.
**11.10** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**13.00, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.25** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.45** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОГАТЫРЬ».**
**17.45** «Погода».
**19.15** «Суперлото».
**19.50** Гороскоп.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«В АВГУСТЕ 44-ГО».**
**23.00** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ. ПРОКЛЯТИЕ ЧЕРНОЙ ЖЕМЧУЖИНЫ».**

**ВТОРНИК, 23 ИЮНЯ**

**7.00, 15.30, 18.25, 21.10, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.35** «Мульт-парад».
**7.30, 15.25, 16.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**8.25, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** Д/ф.
**10.40** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ. ПРОКЛЯТИЕ ЧЕРНОЙ ЖЕМЧУЖИНЫ».**
**13.00, 18.30** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.25** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.50** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.15** Х/ф **«ЗАБВЕНИЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ДВОРЕЦКИЙ».**
**23.20** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**

**СРЕДА, 24 ИЮНЯ**

**7.00, 17.35, 21.10, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10, 14.50** «Мульт-парад».
**7.35, 14.45, 17.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** Кулинарная программа «Готовь как шеф».
**10.35** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ. СУНДУК МЕРТВЕЦА».**
**12.55** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**13.40** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**14.40** «Погода» + Эрана.
**15.00** Х/ф **«ВОЙНА БЕСКОНЕЧНОСТИ».**
**17.40** Д/ф «ТАЙНЫ ЛЮБВИ».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЛЕД».**

**ЧЕТВЕРГ, 25 ИЮНЯ**

**7.00, 15.20, 21.10, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.30** «Мульт-парад».
**7.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.20** Х/ф **«ЛЕД».**
**14.20** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**15.35** Х/ф **«В АВГУСТЕ 44-ГО».**
**17.20** «Фешн is my профешн».
**17.35** Х/ф **«РАСПЛАТА».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КРИМИНАЛ».**
**23.05** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**

**ПЯТНИЦА, 26 ИЮНЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.00** Д/ф.
**10.30** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ. НА КРАЮ СВЕТА».**
**13.10, 17.30** Х/ф **«РАСПЛАТА».**
**14.50** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**16.10** Х/ф **«ОТКРЫТОЕ МОРЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗА ГРАНЬЮ».**
**23.15** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**

**СУББОТА, 27 ИЮНЯ**

**7.00, 15.50, 18.55, 21.15, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы.
**8.40, 17.30** «Приколы 13-й школы».
**8.45** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**9.05** Х/ф **«КАРНАВАЛЬНАЯ НОЧЬ».**
**10.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ».**
**13.40** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ. НА СТРАННЫХ БЕРЕГАХ».**
**15.55** «Смотрим всей семьей». «Аксель».
**17.35** Х/ф **«ИГРЫ ПРОТИВ НАПОЛЕОНА».**
**19.00** Х/ф **«МОРЕ СОБЛАЗНА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ДОКТОР СТРЭНДЖ».**
**23.20** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 28 ИЮНЯ**

**7.00, 15.30, 19.30, 21.15, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.20, 17.00** «Приколы 13-й школы».
**8.25** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА».**
**10.00** Готовь как шеф.
**10.20** Х/ф **«ЛЮБОВЬ».**
**13.35** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ. МЕРТВЕЦЫ НЕ РАССКАЗЫВАЮТ СКАЗКИ».**
**15.35** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Три богатыря».
**17.05** «Погода».
**17.10** Т/с **«УБИЙСТВО У МОРЯ».**
**18.50** Т/с **«КАСЛ».**
**19.35** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНАЯ ТРОПА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«БОЕВОЙ АНГЕЛ».**
**23.50** Х/ф **«КОМАНДА «А».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 22 ИЮНЯ**

**6.30** Х/ф **«ЗОВ ПРЕДКОВ».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**17.10** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ СЕРДЦЕ 2».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДАМС».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 23 ИЮНЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**13.00** Х/ф **«2+1».**
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**16.30** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 24 ИЮНЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**10.00** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**13.00** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**15.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.00** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 25 ИЮНЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«УДИВИТЕЛЬНОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ ДОКТОРА ДУЛИТТЛА».**
**10.00** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**12.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**15.00** Х/ф **«КАМУФЛЯЖ И ШПИОНАЖ».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 26 ИЮНЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**9.40** Всё обо всем.
**11.40** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**13.45** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДДАМС».**
**15.35** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**16.50** Х/ф **«ХОЛОП».**
**19.20** Театральная гостиная.
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 27 ИЮНЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**13.00** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**14.50** Х/ф **«Я - МИЛЛИАРДЕР».**
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 28 ИЮНЯ**

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.00** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДДАМС».**
**10.50** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**12.50** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**16.40** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**20.00** Х/ф **«ОДИН ВЗДОХ».**
**21.40** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«Я ТОЖЕ ЕГО ЛЮБЛЮ «.**
**8.15** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.50** Истории спасения.
**10.30** Зона Х. Итоги недели.
**11.05** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ТАНГО МОТЫЛЬКА».**
**14.25** Маршрут построен.
**15.15** Твой город.
**15.30** Х/ф **«ОСТАРБАЙТЕРЫ».**
**16.20, 19.10** Х/ф **«МОЕ СЕРДЦЕ С ТОБОЙ».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«РАЗЛУЧНИЦА».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**
**9.15, 19.35** Телебарометр.
**9.20** «Подиум». Фэшн-шоу.
**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.
**11.05** «Зов крови». Реалити-шоу.
**12.15** «Верю не верю». Трэвел-шоу.
**13.10** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**15.10** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.40** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.30** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод V – Империя наносит ответный удар».
**20.05** «Секретный миллионер». Реалити-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.20** Х/ф **«МОНСТРО «.**
**22.40** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].
**23.45** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.10, 13.10, 20.15** Навіны культуры.
**7.30** «Сільва». Мастацкі фільм.
**9.55** «Наперад у мінулае».
**10.20** «Беларуская кухня». Хворост.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45** «Прыдуркі». Мастацкі фільм.
**13.30** «Майстры і куміры». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Праваліңскі.
**14.25** «Зімовы вечар у Гаграх». Мастацкі фільм [СТ].
**15.55** Музычны спектакль Варвары «Лён».
**17.45** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм [СТ].
**19.30** «Тэатр у дэталях». Спектакль Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі «Профіт».
**20.00** «Архітэктура Беларусі» [СТ].
**20.35** «Гэты дзень».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Мітусня». Мастацкі фільм.
**22.35** «Сто дзён з Купалаўскім».
**23.00** Творчы вечар заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Тамары Міронавай.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** Х/ф **«ЗА ДВУМЯ ЗАЙЦАМИ».**
**11.10** «Видели видео?».
**13.00** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.
**14.15, 16.20** Т/с **«БИЕНИЕ СЕРДЦА».**
**18.15** «Три аккорда».
**20.00** «Контуры».
**21.20** Премьера. «Dance Революция».
**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.40** Х/ф **«ГДЕ НАХОДИТСЯ НОФЕЛЕТ?».**

## СТВ

**6.30, 23.40** «Пища богов».
**8.10, 11.00** Документальный проект.
**9.05** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«РОЗЫСК».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**20.35** Документальный спецпроект.
**22.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня». Дети войны (оригинал).
**6.30** Д/ф «ВСЕ ЦВЕТА ИЮЛЯ».
**7.10** Х/ф **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК».**
**8.50** «Наше кино. История большой любви».
**9.25** «ФазендаЛайф». Итальянский дворик.
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15** Т/с **«ТИХИЙ ДОН».**
**17.55, 19.30, 1.00** Т/с **«С ЧЕГО НАЧИНАЕТСЯ РОДИНА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**4.10** Х/ф **«ДЕВУШКА С ХАРАКТЕРОМ».**
**5.30** Т/с **«ТИХИЙ ДОН».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».
**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.50** «Истории ремонта».
**7.20** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.55** Беларусы.
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.25** «Первая передача».
**10.55** «Чудо техники».
**11.45** «Дачный ответ».
**12.45** «НашПотребНадзор».
**13.45** Истории спасения.
**14.15** Х/ф **«СТАЯ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.10** Ты не поверишь!
**21.15** «Звезды сошлись».
**22.40** Егор Бероев и Екатерина Вилкова в криминальном боевике «Рейдер».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«Я ТОЖЕ ЕГО ЛЮБЛЮ».**
**10.20, 11.10** Х/ф **«КУКУШКА».**
**11.00** ВЕСТИ.
**14.00** Х/ф **«НЕ БЫЛО БЫ СЧАСТЬЯ…».**
**17.50, 21.45** Х/ф **«СЧАСТЬЕ ПО ДОГОВОРУ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.15** «В людях».
**22.50** ПРЕМЬЕРА. «РОССИЯ. КРЕМЛЬ. ПУТИН».
**23.55** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 3.55** Годзилла. **8.45** Кинг Конг. **12.05** Последняя любовь на Земле. **13.40** Сумерки. **15.50** Сумерки. Сага. Новолуние. **18.00** Сумерки. Сага. Затмение. **20.10** Каратэ-пацан. **22.45** Шанхайские рыцари. **0.40** Голос монстра. **2.25** Очень плохие мамочки.

### TV1000 ACTION

**7.05** Криминальное чтиво. **9.45** Большой куш. **11.35** Джанго освобождённый. **14.30** Призрачный патруль. **16.05** Призрачный гонщик. **18.00** Призрачный гонщик 2. **19.35** Из Парижа с любовью. **21.10** 13-й Район: Ультиматум. **22.50** Сезон убийц. **0.15** Боги Египта. **2.55** Война Богов: Бессмертные. **5.10** Геракл: Начало легенды.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.50** Бармен. **9.45** Вертикаль. **11.20** Экипаж. **13.45** Как я стал русским. **15.25** Самый лучший день. **17.15** Гороскоп на удачу. **19.00, 5.30** Любовь-морковь. **20.50** Любовь-морковь 2. **22.35** Любовь-морковь 3. **0.30** Война полов. **2.10** Неуловимые. **4.00** Неуловимые: Последний герой.

### ТВ3

**6.00, 10.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.15** «Спросите доктора Комаровского». **9.30** «Новый день». **11.45** «Погоня за вкусом». **12.45** «Мама Russia». **13.45** Х/ф **«РУСАЛКА. ОЗЕРО МЁРТВЫХ». 15.30** Х/ф **«ВУРДАЛАКИ». 17.15** Х/ф **«ПИКОВАЯ ДАМА. ЗАЗЕРКАЛЬЕ». 19.00** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР». 21.15** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР: РАВНОВЕСИЕ». 23.15** Х/ф **«ГОСТИ». 1.00** Х/ф **«РАССВЕТ МЕРТВЕЦОВ». 2.45** Х/ф **«ВОЛКИ У ДВЕРИ». 3.45, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЖИЗНЬ И ПРИКЛЮЧЕНИЯ МИШКИ ЯПОНЧИКА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«МОЙ ПАРЕНЬ – КИЛЛЕР». 2.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ 3». 4.45** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА». 6.25** Х/ф **«ПАПАШИ БЕЗ ВРЕДНЫХ ПРИВЫЧЕК». 8.25** Х/ф **«СТАЖЕР». 10.15** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ». 12.05** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК». 14.00** Х/ф **«ЛЮБИМЦЫ АМЕРИКИ». 15.55** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ». 17.30** Х/ф **«КОРПОРАТИВ». 19.10** Х/ф **«ALL INCLUSIVE, ИЛИ ВСЁ ВКЛЮЧЕНО!». 21.05** Х/ф **«ВСЕ ВКЛЮЧЕНО 2». 23.00** Х/ф **«НЯНЬКА ПО ВЫЗОВУ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 2.00, 3.00, 4.15, 5.15** Истоки. **6.20, 7.20, 8.20, 9.25, 10.25, 11.25, 12.25, 13.30** Операция «Сатана». **14.30, 15.25, 16.30, 17.30, 18.30, 19.30, 20.30, 21.30, 22.30, 23.30** Консультант.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.50, 2.20** Шоу «РОГОВ ДОМА». **13.50** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР 3: ВОССТАНИЕ МАШИН». 15.50** Х/ф **«РИДДИК». 18.00** Х/ф **«ПОБЕГ С ПЛАНЕТЫ ЗЕМЛЯ». 19.45, 0.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«АДРЕНАЛИН». 22.40** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **23.20** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**5.55, 7.00** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. 4-й тур. **8.05** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Мужчины. ХК Минск – ХК Строитель). **9.20** Игры «на вырост». **9.50** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. 4-й тур. Гродноблспорт – ПФК Брест. **11.05** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. 4-й тур. СДЮШОР (Кировск) – ПФК Щучин. **12.20** Пляжный футбол. Чемпионат Беларуси. 4-й тур. М-сити (Мозырь) – Полесье (Кобрин). **13.30** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Мужчины. ХК Минск – ХК Строитель. **14.55** Пит-стоп. **15.25** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 15-й тур. Превью. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 15-й тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – ФК Витебск. В перерыве Превью. **17.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 15-й тур. Рух (Брест) – Белшина (Бобруйск). В перерыве Превью. **19.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 15-й тур. ФК Городея – Ислочь (Минский р-н). В перерыве Превью. **21.55** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **22.40** Итоги недели. **23.25** Теннис. Международный турнир. Чарльстон.

### EUROSPORT

**0.30, 1.00, 1.30, 2.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00** Автогонки. Формула Е. Топ-100. **2.30, 4.00, 12.30** Снукер. Чемпионат мира-2019. Шеффилд. Финал. **6.00** Автогонки. Как создать болид. **8.30** Автогонки. WTCR. Гейминг. Хунгароринг. **9.30** Теннис. Ultimate Tennis Show. Четвёртый день. **10.30, 11.30** Теннис. Ultimate Tennis Show. Пятый день. **15.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2017. 4-й этап. **16.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2017. 5-й этап. **17.30** Велоспорт. «Тур де Франс»-2017. 6-й этап. **18.15, 19.15** Теннис. Ultimate Tennis Show. Шестой день. Прямая трансляция. **20.30** Теннис. Обзор. **23.00** Автогонки. WTCR. Гейминг. Словакия.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Тайный покупатель. **6.15, 7.45, 16.15** Поездка выходного дня. **6.45, 8.15, 16.45, 18.40** Металлоломщики. **7.30, 9.55, 13.15, 16.00, 18.20, 23.15, 1.25, 4.00** Итоговые новости. **9.05** Резьба по стали. **9.35** Тест с дядей Ваней. **10.10** Мотогараж. **10.40** Мото тест-драйв. **11.15, 19.25, 22.45, 3.30** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.50, 20.00, 4.10** Авто: вторые руки. **12.05, 20.15, 23.35, 4.25** Трасса А2. **12.55, 0.20** Хорошо забытое. **13.25, 0.40** Испытание на прочность. **14.00, 1.10** Вторичка. **14.15, 1.40** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **14.45, 21.05, 5.10** Тест в большом городе. **15.20** Байки про байки. **17.45, 2.05** В поисках мотоприключений. **21.45, 2.35** Вечер с Пикуленко. **22.25, 3.15** Дома на колесах. **5.45** Мото-тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.55, 8.45** Речные чудовища. **9.40** Невероятная рыбалка. **10.30** Масштабные инженерные ошибки. **11.15** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.45, 20.35, 21.20, 22.05, 22.50, 23.40, 0.25, 1.10, 1.55** Австралийские золотоискатели. **2.45, 3.35** Ковбои ледяных вод. **4.25, 5.10** Адские грузовики.

### HISTORY

**6.00, 6.25, 6.50, 5.00, 5.25** Невероятные изобретения. **7.15, 8.00, 8.45** Музейные тайны. **9.30, 10.20** Взрывная Земля. **11.15, 12.15** Первые люди. **13.15, 14.10, 15.10** Невидимые города Италии. **16.05, 17.05** Древние небеса. **18.05, 19.05** Хит-парад военной техники. **20.00** Тридцатилетняя война – Железный век. **21.00** Генрих и Анна: любовники, изменившие историю. **21.50** Древние суперстроения. **22.45, 23.35** Карты убийства. **0.25, 1.10** Мифы и чудовища. **1.55, 2.40, 3.25, 4.10** Запретная история.

### NATURE

**6.00, 17.35** Новый взгляд на тираннозавра. **6.50, 7.40** День из жизни Земли. **8.30, 9.25** Одиссея растений. **10.20, 11.20** Коварные растения. **12.25, 13.20, 14.10** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **15.00, 18.25** Загадочная планета. **15.50** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **16.40** Эпический Йеллоустоун. **19.20, 20.10** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **21.00** Суровая Австралия. **21.50** Невероятные встречи с животными. **22.40, 1.55, 5.15** Мутации погоды. **23.25, 23.50** Природа в кадре. **0.15** Жуткие, настоящие и странные. **1.05** Хищные питомцы. **2.45** Ветеринар из Йоркшира. **3.30** Уличный ветеринар. **3.55, 4.25, 4.50** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупостилучшее за 2018 г. **6.25** Золото Юкона. **7.10** Труднейший в мире ремонт 2. **8.00, 8.50, 9.35, 10.20, 11.05** Самые лучшие суперкары. **11.50, 4.45** Авто – SOS. **12.40, 13.25, 14.10** Космос: возможные миры. **14.55, 15.40, 16.25, 17.15** Расследование авиакатастроф. **18.00, 18.45, 19.30, 20.15** Служба безопасности аэропорта: Колумбия. **21.00, 21.45** Поймать контрабандиста. **22.30, 23.15** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **0.00, 0.25** Горячие границы: Латинская Америка. **0.50, 1.35** Инстинкт выживания 4. **2.20, 3.10, 4.00** Неизвестная планета земля. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 19.00** Мир рыболова. **7.20, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 16.05, 20.00** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.20, 16.35, 20.30** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **8.50, 3.05** Рыболовная Россия. **9.25, 13.20, 17.35, 21.35, 1.30, 5.35** Рыбалка в России. **11.20, 19.30, 3.35** Вкусные рецепты охотника. **12.55, 17.05** Россия заповедная. **15.15, 4.20** Популярная охота. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.00** Горная охота на охотского снежного барана. **0.00, 4.05** Давай зарубимся! **0.15** Охоты и охотники. **0.35, 4.35** Рыбалка 360. **1.05, 5.05** Охота в Удмуртии. **2.50** Какая дичь!

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.00, 18.05, 22.20, 2.25** Профотбор. **6.30, 10.30, 14.30, 18.35, 22.50, 2.55** Дачных дел мастер. **6.55, 15.00, 19.05, 23.20, 3.25** Старинные русские усадьбы. **7.25, 11.45, 23.50** Новые Робинзоны. **7.55, 12.15, 16.15, 20.05, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.10, 12.30, 16.30, 20.20, 0.35, 4.35** Сладкая жизнь. **8.30, 12.45, 16.50, 20.40, 0.55, 4.50** Сам себе дизайнер. **8.45, 13.00, 17.05, 21.00, 1.10, 5.05** У мангала. **9.15** Травовед. **9.30** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **11.00** Праздник в дом. **11.30** Наш румяный каравай. **13.30, 17.30, 21.30, 1.40, 5.35** История одной культуры. **15.30** Кисельные берега. **15.45, 19.35, 3.50** Школа дизайна. **22.00** Самогон. **2.10** С пылу с жару.



У польскім горадзе Пётркуве-Трыбунальскім.

# Чытала і плакала, і зноў перачытвала

## Праз 80 год маладзечанка даведалася, дзе пахаваны яе дзядуля

**Сёлета 9 мая ў маладзечанкі Людмілы Святохі ад раніцы быў асаблівы настрой. Глядзела тэматычныя перадачы па тэлебачанні, слухала ваенныя песні. І адчувала: сёння павінна здарыцца нешта важнае. І вось гартаючы стужку ў сацсетцы, на старонцы «Рэгіянальнай газеты» заўважыла пост пра вераснёвых смертнікаў.**

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

### Гаспадарка, жонка, маленькі сын: як жыў да войска Юльян Святоха

– Калі я пачала чытаць артыкул, чамусьці ўжо ведала, што ў спісе загінулых знайду свайго дзядулю **Юльяна Святоху**. Відаць, інтуіцыя. Яшчэ не дачытаўшы артыкул да канца, пачала праглядаць спіс і знайшла прозвішча роднага чалавека. Чытала і плакала, і зноў перачытвала, – падзялілася Людміла з карэспандэнтам.

Па словах Людмілы, яе дзядулю, Юльяна, 1906 года нараджэння, прызвалі ў Войска Польскае ў 1939 годзе з вёскі Кумельшчына Даўгінаўскай гміны Вілейскага павета Віленскага ваяводства.

У Кумельшчыне Юльян жыў з жонкай **Вікторыяй** і сынам Іванам, будучым бацькам Людмілы, народжаным у 1938 годзе. З сям'ёй жыў і бацька Юльяна, **Францішак**, 1860 года нараджэння. Маці Юльяна памерла раней.

Вікторыя і Юльян былі сялянамі, мелі сваю гаспадарку і кавалак зямлі. Галавой гаспадаркі, згодна з дакументамі, з'яўлялася бабуля.

Пра смерць Юльяна Святохі сям'я даведалася ў канцы 1939 года. Па словах Людмілы, родныя атрымалі пахаванку, але да сёння яна не захавалася. У хуткім часе памёр і бацька Юльяна.

### «Юлісь быў добрым чалавекам, але бог не даў нам шчасця»

– Жыць бабулі было вельмі цяжка. Пасля вайны яна выйшла замуж за ўдаўца ў суседнюю вёску Дуброўка. Ва ўдаўца было чацвёра сваіх дзяцей. Там бабуля жыла да самай смерці, да 1994 года, – расказвае Людміла.

Другі муж Вікторы быў чалавекам жорсткім, аўтарытарным і ўспамінаць пра Юльяна ў яго хаце было забаронена.

> **Але, па словах суразмоўцы, бабуля часта ўспамінала першага мужа і казала: «Юлісь быў добрым чалавекам, не скупым, але бог не даў нам шчасця».**

Пасля таго як бабуля выйшла замуж другі раз, Іван, тата Людмілы, застаўся жыць у сваім доме ў Кумельшчыне адзін, бо новы муж бабулі не прыняў пасынка. Гэта ж быў лішні рот у доме. Хлопцу дапамагала цётка **Зося**, сястра Вікторыі.

– Калі прыйшоў час, бацьку прызвалі ў армію, – працягвае Людміла. – Ён адслужыў, вярнуўся ў вёску, прадаў дом і з'ехаў жыць і працаваць у Маладзечна. Стварыў сваю сям'ю, у якой нарадзіліся двое дзяцей: я і мой брат **Ігар**.

Усё жыццё тата Людмілы прапрацаваў кіроўцам на аўтабазе. Свайго тату, Юльяна Святоху, ён не памятаў. Але да самай смерці не траціў надзею знайсці яго магілу, прасіў пра гэта дачку. Са слоў маці, Іван памятаў толькі тое, што бацька забіты каля польскай ракі і пахаваны недзе каля Варшавы.

### Звярталіся ў Цэнтральны польскі архіў, а дапамог Францішак Жылка

Каб знайсці магілу дзядулі, Людміла звярталася ў Цэнтральны вайсковы архіў Польшчы, у Варшаве. Але адказу не атрымала. Просьба бацькі задаволілася толькі сёлета 9 мая дзякуючы Францішку Жылку.

– Першым чалавекам, з кім я падзялілася навіной, што знайшла дзядулю, быў мой сын. Ён цяпер якраз жыве ў Польшчы. За гадзіну да таго, як я знайшла артыкул, патэлефанавала сыну, пагутарылі. Сказала, што сёння такое свята і менавіта ў Польшчы дзесяці ёсць магіла тваіго прадзеда, – расказвае Людміла.

Жанчына лічыць вельмі сімвалічным, што менавіта ў Дзень Перамогі яе сям'я даведалася, дзе пахаваны дзядуля і прадзядуля.

– Як толькі будзе магчымасць, здымуць абмежаванні па ўездзе-выездзе, мы абавязкова з'ездзім у горад Пётркуў-Трыбунальскі, што ў Лодзінскім ваяводстве. Дзякуй Францішку Жылку за тое, што мы нарэшце знайшлі магілу дарагога чалавека і цяпер зможам пакланіцца ёй, – падсумавала Людміла.

«Вераснёвыя смертнікі» – жаўнеры 86-га Маладзечанскага пяхотнага палка ў Гелянове, якія ў верасні 1939 года стрымлівалі немцаў на подступах да Варшавы. Яны першымі прынялі ўдар Германіі ў Другой сусветнай. 250 вайскоўцаў гэтага палка, што загінулі ў верасні 1939 года, пахаваныя ў Польшчы, у горадзе Пётркуве-Трыбунальскім.

*Шаноўныя чытачы, калі вы знайшлі сваіх родных у спісе «вераснёвых смертнікаў», паведаміце, калі ласка, нам па тэлефоне **(8-0176) 53-78-06** або напішыце на пошту **regionnews@rh.by**. Мы абавязкова раскажам вашу гісторыю. Можаце таксама звязацца з **Францішкам Жылкам: (8-029) 619-64-72**, e-mail: **info@fra-mil.by**.*

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

19 ЧЭРВЕНЯ

**1912.** У мястэчку Радунь нарадзіўся **Пятро Бітэль**, беларускі паэт, перакладчык, краязнаўца, настаўнік (пам. 18.10.1991). Жыў у Вішневе на Валожыншчыне, Маладзечне. Пахаваны ў Вішневе.



**1941.** Апошняя перадваенная масавая дэпартацыя ў заходніх абласцях Беларусі, Украіны, Малдовы. За 19-22 чэрвеня з Беларусі высланы ў Сібір і Казахстан 22 тысячы чалавек.

20 ЧЭРВЕНЯ

**1939.** У Мінску нарадзіўся **Валеры Раеўскі**, беларускі тэатральны рэжысёр, народны артыст Беларусі (пам. 19.11.2011). Работы Раеўскага ставіліся ў т.л. у Мінскім абласным драмтэатры ў Маладзечне.

**1948.** У Вязынцы адкрыты філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

21 ЧЭРВЕНЯ

**1957.** У адным з нью-ёркскіх гатэляў на Манхэтане амерыканскімі спецслужбамі арыштаваны савецкі агент Вільям Фішар (Рудольф Абель).

22 ЧЭРВЕНЯ

**1941.** Нацысцкая Германія напала на СССР. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны.

23 ЧЭРВЕНЯ

**1945.** У Вілейцы нарадзілася **Тамара Дудко**, гаспадарчы і грамадскі дзеяч. У 1966-1982 працавала на Маладзечанскім піўзаводзе. Трагічна загінула ў 1999. Яе іменем названая вуліца ў Маладзечне.

24 ЧЭРВЕНЯ

**1930.** Нарадзіўся **Уладзімір Калачык**, з 1957 старшыня калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы. Памёр 20.03.2020.



25 ЧЭРВЕНЯ

**1864.** На базе Маладзечанскага павятовага дваранскага вучылішча ўтвораная Маладзечанская настаўніцкая семінарыя – адна з першых у Расіі. Праіснавала да 1920 года.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**

Скрыншот з youtube.com.

Скрыншот відэафрагмента, у якім Аркадзь Жызнеўскі дзеліцца меркаваннем у эфіры Ціханоўскага.

# Маладзечанца аштрафавалі за ўдзел у стрыме Ціханоўскага

## Ён скардзіўся на адсутнасць беларускамоўных класаў у горадзе

**Суд па адміністрацыйным правапарушэнні адбыўся ў Маладзечне 11 чэрвеня.**

Прычынай адміністрацыйнай справы стала выступленне **Аркадзя Жызнеўскага** ў стрыме блогера Сяргея Ціханоўскага, які адбыўся 15 красавіка.

**Калі Ціханоўскі падышоў да маладзечанца з мікрафонам, Жызнеўскі паскардзіўся, што ў горадзе няма класаў з беларускамоўным навучаннем.**

Вось вытрымкі яго выступлення: «Раней я быў абыякавы, як ёсць так ёсць. Я, як бачыце, размаўляю па-беларуску, хацеў дзяцей аддаць, каб таксама вучыліся. Ці то загаду няма, ці як павінна адбывацца, што калі бацькі аддаюць дзіця ў першы клас, у іх пыталіся, на якой мове хочаце, каб вучылася дзіця. Мы самі ставімся да сваёй культуры, сваёй мовы так, нібыта не беларусы».

Гэтыя дзеянні суд кваліфікуе як правапарушэнне, прадугледжанае часткай 1 артыкула 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – «Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў». Суд пастанавіў, што Жызнеўскі парушыў правілы пікетавання. А менавіта – прымаў актыўны ўдзел у сумеснай масавай прысутнасці грамадзян у загадзя вызначаным грамадскім месцы без адпаведнага дазволу Маладзечанскага райвыканкама. Паводле пастановы суда, падчас мерапрыемства маладзечанец публічна абмяркоўваў умовы жыцця і стаўлення да дзейснай улады.

На пасяджэнні абвінавачаны віну прызнаў.

**Суд наклаў на Жызнеўскага адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры 30 базавых велічынь, што складае 810 рублёў.**

### Хочаце беларускі клас – вазіце ў вёску

Аркадзю Жызнеўскаму 34 гады, жанаты, мае на ўтрыманні дваіх дзяцей, працуе кіроўцам.

У размове з карэспандэнтам «РГ» ён патлумачыў, што лічыць прысуд несправядлівым, а на мерапрыемстве выказваў уласную думку. На пытанне, чаму прызнаў віну, патлумачыў, што не кожны дзень ходзіць у суд, і лічыў, што пагаджаецца з пратаколам.

Маладзечанец расказаў, што звяртаўся ў аддзел адукацыі, каб атрымаць магчымасць аддаць дачку ў беларускамоўны клас. Яму адказалі, што іншыя бацькі не хочуць беларускай мовы ў адукацыі дзяцей.

**Прапанавалі аддаць дзіця ў вясковую школу.**

Жызнеўскі лічыць, што пры паступленні дзіцяці ў школу ў яго бацькоў павінны пытацца, на якой мове яны хацелі б, каб дзіця атрымала адукацыю.

### Праваабаронца: «Гэта расправа»

У працэсе ўдзельнічаў у якасці назіральніка ад Беларускага хельсінскага камітэта праваабаронца **Эдуард Баланчук**, які лічыць прысуд несправядлівым.

– Па Канстытуцыі кожны грамадзянін мае права на мірныя сходы і свабоду выказвання меркавання, збор і распаўсюджванне інфармацыі. Тое, што існуе Кодэкс, які супярэчыць Канстытуцыі – не праблема суддзі. Канстытуцыя – галоўны закон краіны. Таму суддзя мусіла абапірацца на яго. Так як у нас па законе прынцып падзелу ўлады, і судовая не адказвае за недасканаласць заканадаўчай. Чаму грамадзянін не можа выказаць меркаванне аб уладзе, прадпрыемствах і іншых пытаннях? А калі сказаў нешта крамольнае, то няхай заводзяць справу за паклёп і палічаць, ці ёсць беларускамоўныя класы ў Маладзечне.

**Я лічу, што гэта расправа над людзьмі, якія скарысталіся сваім канстытуцыйным правам.**

Што тычыцца прызнання віны, то, па словах Баланчука, гэта павінна змякчаць віну. У такім выпадку суд можа спагнаць мінімальны штраф. Па артыкуле, па якім асудзілі Жызнеўскага, прадугледжаныя наступныя варыянты пакарання: папярэджанне, штраф за 30 базавых, адміністрацыйны арышт.

Аркадзь Жызнеўскі будзе абскарджваць прыгавор у Мінскі абласны суд.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Візы для падарожжа па нямецкіх гарадах мы пакуль не атрымаем.

# Германія адмяніла абмежаванні на дзяржаўных межах

## Але візу туды вы атрымаеце ў выключных выпадках

**Ад панядзелка, 15 чэрвеня, Германія адмяніла апошнія абмежаванні на дзяржаўных межах. Цяпер грамадзяне могуць перасякаць іх беспершкодна, як і было да пандэміі. Раней адпаведнае рашэнне прынялі ўлады краіны, піша tass.ru.**

### У Афрыку, Азію, Амерыку немцы пакуль не трапяць

ФРГ увяла абмежаванні на неабавязковыя паездкі за мяжу 17 сакавіка. З тых часоў на межах дзяжурылі шэсць тысяч супрацоўнікаў федэральнай паліцыі. Амаль 200 тысяч чалавек не пусцілі ў ФРГ за апошнія тры месяцы, паведаміў кіраўнік МУС **Хорст Зээхофер**. Ад сярэдзіны мая рэжым памежнага кантролю паступова памякчалі, цяпер яго адмянілі цалкам.

Таксама адмянілі папярэджанне аб небяспецы падарожжаў у 29 краін Еўропы (члены ЕС і Шэнгена). Адпаведныя папярэджанні ўлады ФРГ выносяць, калі мяркуюць, што абстаноўка ў той ці іншай краіне пагражае нямецкім грамадзянам. Адмена гэтага рэжыму азначае аднаўленне рэгулярных пералётаў.

Адначасова да 31 жніўня захоўваецца папярэджанне на паездкі ў больш як 160 дзяржаў за межамі Еўропы. Гэта азначае, што жыхарам Германіі не ўдасца правесці адпачынак у краінах Афрыкі, Азіі, Амерыкі. Да верасня будуць магчымыя кропкавыя выключэнні, калі ў якой-небудзь краіне эпідэміялагічная абстаноўка істотна палепшыцца.

### Працуюць пляжы, гатэлі, турбазы

Адкрываючы межы, улады ФРГ папярэджваюць, што грамадзянам самім прыйдзецца вырашаць магчымыя праблемы, калі другая хваля захворвання заспее іх у паездцы. Калі Германія ў сярэдзіне сакавіка ўвяла абмежаванні, высветлілася, што за мяжой знаходзіцца каля 240 тысяч нямецкіх турыстаў. Іх вярнулі на радзіму за пяць тыдняў. У Міністэрстве замежных спраў папярэдзілі, што другі раз такую акцыю ўлады правесці не змогуць.

Германія ўжо на працягу некалькіх тыдняў паступова змякчае забароны, уведзеныя з-за каронавіруса. Ва ўсіх федэральных землях запрацавалі музеі, фітнес-клубы, басейны пад адкрытым небам, пляжы, гатэлі, турбазы, рэстараны, бары, крамы, дзіцячыя садкі.

### Але! Не збірацца кампаніямі, большымі за дзесяць чалавек

Пры гэтым абмежаванні на сацыяльныя кантакты пакуль дзейнічаюць – збірацца можна максімум удзесяцёх або ў коле прадстаўнікоў дзвюх дамашніх гаспадарак. Застаецца ў сіле масачны рэжым у крамах і грамадскім транспарце.

За перыяд пандэміі ў ФРГ каронавірусам заразілася больш за 186,2 тысячы чалавек, 172 тысячы ачунялі. Памерлі 8 700 пацыентаў. Тэмпы пашырэння інфекцыі ў краіне скарачаюцца з мая.

### Новыя тэхналогіі – у дапамогу немцам

Ужо 16 чэрвеня германскія распрацоўшчыкі прадставілі грамадскасці дадатак для смартфонаў, які дазволіць адсочваць кантакты носьбітаў каронавіруса.

Выкарыстоўваць яго можна будзе выключна добраахвотна. Прынцып працы наступны: пры ўключаным перадатчыку блютуз смартфоны карыстальнікаў, якія, да прыкладу, стаяць у адной чарзе ў краме, будуць фіксаваць адзін аднаго і захоўваць гэту інфармацыю ва ўнутранай памяці. Калі пасля хтосьці захварэе, то аўтаматычныя апавяшчэнні прыйдуць усім, хто знаходзіўся побач – на вуліцы, у краме, у транспарце і гэтак далей.

### Калі пачнуць выдаваць візы і хто можа атрымаць яе цяпер

Як паведамляюць у Пасольстве Германіі ў Беларусі, выдача віз прыпыненая да 1 ліпеня. Візавыя хадайніцтвы могуць разглядацца ў выключных выпадках. Так хадайніцтва на выдачу нацыянальнай візы могуць разгледзець у двух выпадках:

– калі вы медыцынскі работнік,

– калі член сям'і – грамадзянін Германіі, які апынуўся ў надзвычайных абставінах.

Хадайнічаць на атрыманне шэнгенскай візы можна для:

– міжнародных грузаперавозак,

– экстранных медыцынскіх выпадкаў,

– іншых гуманітарных мэт.

**Аддзел інфармацыі.**

## Садкі рэгіёна – у пераможцах конкурсу «Дзіўны свет дзяцінства»

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

На Міншчыне завяршыўся абласны фестываль-конкурс «Дзіўны свет дзяцінства», які ладзілі ад 1 да 12 чэрвеня. Удзельнікі прадстаўлялі дыдактычныя гульні і дапаможнікі. Сярод пераможцаў – садкі з Вілейкі і Маладзечна.

У намінацыі «Тэрыторыя дзяцінства: аўтарская дыдактычная гульня» дыплом першай ступені атрымала гульня «Вясёлкавыя хадзілкі» вілейскіх ясляў-сада №3. Аўтары гульні – педагогі **Дар'я Дурэйка** і **Наталля Ахрэм**.

У гэтай жа намінацыі трэцяе месца атрымалі маладзечанскія яслі-сад №33. Дыпломам адзначылі дыдактычную гульню «Збяры карцінку». Аўтары – педагогі **Алеся Максімчыкава** і **Вольга Сіняўская**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Правядуць абласныя спаборніцтвы выратавальнікаў

ВІЛЕЙКА

Абласныя спаборніцтвы выратавальнікаў зладзяць на Вілейскім вадасховішчы. Дакладная дата пакуль невядомая. Чакаюць, што спаборніцтвы будуць у канцы ліпеня – пачатку жніўня.

– Выратавальнікі будуць спаборнічаць у выратавальным шматбор'і і выхадзе катара па трывозе, – паведаміў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**.

Па яго словах, абласныя спаборніцтвы будуць доўжыцца адзін дзень. Пераможцы трапяць на рэспубліканскія. Дзе іх правядуць, пакуль не вырашылі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Прыязджаў кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта

МАЛАДЗЕЧНА

12 чэрвеня кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Ігар Сергеенка** з рабочай паездкай наведаў Маладзечна.

Сергеенка азнаёміўся з працай філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» і ААТ «ЭНЭФ».

– Калектыў малады – сярэдні ўзрост каля 40 гадоў, трацiна людзей, якая тут працуе, мае вышэйшую адукацыю. Людзі, нягледзячы на праблемы і пандэмію, упэўнена працуюць, забяспечваюць выкананне пастаўленых задач, – сказаў Сергеенка пра «Маладзечанскія электрычныя сеткі».

Галоўны інжынер Маладзечанскіх электрасетак **Юры Рогач** сказаў, што вядзецца будаўніцтва электракацельні і падстанцыі. Гэтыя аб'екты будуць, каб інтэграваць АЭС у беларускую энергасістэму. Увод электракацельняў дазволіць панізіць сабекошт цеплавой энергіі і сэканоміць газ. Абодва аб'екты плануецца дабудаваць у бягучым годзе.

Дырэктар філіяла **Павел Гарудка** дадаў, што пандэмія не перашкодзіла планам энергетыкаў: людзі прыслухаліся да рэкамендацый медыкаў, усе носяць маскі.

Дырэктар «ЭНЭФ» **Наталля Галота** распавяла Сергеенку, што рабочыя на прадпрыемстве працуюць амаль шэсць дзён. Працуе каля 60% жанчын, усяго 200 чалавек. Сярэдні заробак, паведамляе БелТА, складае 1,3 тысячы рублёў.

«ЭНЭФ» супрацоўнічае з «Атлантам», МАЗам, «Штадлерам». На экспарт ідзе каля 90% прадукцыі, больш за ўсё ў Расію і Германію.

**Паводле БелТА.**

## Ураджэнца рэгіёна абралі суддзёй Канстытуцыйнага суда

МЯДЗЕЛ

Савет Рэспублікі шляхам тайнага галасавання абраў **Тадэвуша Варановіча** суддзёй Канстытуцыйнага суда Беларусі.

Тадэвуша Варановіча пераабралі на новы тэрмін у сувязі са сканчэннем тэрміну паўнамоцтваў. Кандыдат юрыдычных навук, ён мае вышэйшы кваліфікацыйны клас суддзі. У судовай сістэме – ад лістапада 1981 года. Суддзёй Канстытуцыйнага суда быў абраны ў 2009 годзе.

– За час працы ў Канстытуцыйным судзе зарэкамендаваў сябе высокакваліфікаваным спецыялістам у галіне права. Глыбокія веды канстытуцыйнага, грамадзянскага права, судовага ладу, грамадзянскага і крымінальнага працэсаў, вялікі практычны досвед працы ў судовай сістэме дазваляюць яму паспяхова і вынікова выконваць службовыя абавязкі, – адзначыў старшыня КС **Пётр Міклашэвіч**, прадстаўляючы сенатарам кандыдатуру Тадэвуша Варановіча.

Канстытуцыйны суд фарміруецца з 12 суддзяў: шэсць прызначае **Аляксандр Лукашэнка**, шэсць выбірае Савет Рэспублікі.

Варановіч – ураджэнец нашага рэгіёна. Ён нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Мікольцы на Мядзельшчыне.

**Паводле БелТА.**

Фота moop.1prof.by.

Залуцкі – аўтар больш за 400 навуковых прац і 17 патэнтаў.

# У гонар анколага перайменавалі медыцынскі каледж у Маладзечне. Распавядаем, хто такі Іосіф Залуцкі

**У студзені 2019 года маладзечанскі медыцынскі каледж стаў насіць імя Іосіфа Залуцкага. «РГ» распавядае пра вядомага беларускага анколага і як ён звязаны з Маладзечнам.**

15 лістапада 2018 года Мінскі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне даць імя Іосіфа Залуцкага Маладзечанскаму медыцынскаму каледжу. Пасведчанне аб перайменаванні выдалі 15 студзеня 2019 года.

## Дзяцінства ў вёсцы

Іосіф Залуцкі нарадзіўся ў вёсцы Мумішкі на Пастаўшчыне ў 1950 годзе. Ён быў адзіным сынам у сям'і. У нешматлікіх інтэрв'ю ўспамінаў бацькоў і дзяцінства ў вёсцы, бацьку Віктара і маці Марыю.

Распавядаў, што памятае, як працавалі мужчыны ў полі і заўсёды хацеў быць такім жа дужым.

> **– Я цяпер магу і з касой, і з плугам, і каня магу запрэгчы. Вёска навучыла працаваць. А гэта самае галоўнае ў любой прафесіі, – расказваў Залуцкі.**

## Шлях у медыцыну пачаў у Маладзечне

У 1969 годзе ён завяршыў навучанне ў Маладзечанскім медыцынскім вучылішчы, а пасля навучання трапіў у армію. Аднак з медыцынай пасля войска не завязаў – паступіў на лячэбны факультэт Мінскага медыцынскага інстытута. У 1978 годзе скончыў яго з адзнакай.

У 1978-1982 гадах працаваў клінічным ардынатарам, доктарам у радыялагічным аддзяленні Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР.

У 1985 годзе стаў малодшым навуковым супрацоўнікам, у 1990-м – старшым навуковым супрацоўнікам і кіраўніком аддзялення рэабілітацыі. У 1991 годзе Залуцкі ўжо працаваў вядучым навуковым супрацоўнікам аддзялення рэабілітацыі і брахітэрапіі.

У 1994 годзе атрымаў доктарскую ступень па медыцыне, а праз шэсць год стаў прафесарам. Пасля атрымання ступені атрымаў пасаду загадчыка аддзялення агульнай анкалогіі і пластычнай хірургіі Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі.

У 2000 годзе стаў дырэктарам Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М. Аляксандрава. Ад 1999 да 2007 года Залуцкі быў загадчыкам кафедры анкалогіі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі.

У 2001 годзе стаў галоўным пазаштатным анколагам Міністэрства аховы здароўя. У 2004 годзе – членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Ад 2010 года працаваў намеснікам акадэміка-сакратара аддзялення медыцынскіх навук НАН Беларусі, дырэктар Інстытута фізіялогіі. У апошнія гады Залуцкі каардынаваў працу анкалагічнай службы Беларусі, праводзіў даследаванні ў галіне эпідэміялогіі, прафілактыкі і ранняга выяўлення ракавых пухлін.

## Залуцкі – адзін з самых вядомых беларускіх анколагаў

Іосіф Залуцкі быў вядомым анколагам у Беларусі. Ён займаўся распрацоўкай і укараненнем у практыку метадаў дыягностыкі, лячэння і рэабілітацыі анкалагічных хвbooрых. На практыцы ажыццявіў ідэю выканання радыкальных аперацый з захаваннем органаў у хворых з пухлінамі апорна-рухальнага апарату, мяккіх тканак, галавы і шыі.

Яго працы ў галіне арганізацыі супрацьракавай барацьбы, эпідэміялогіі раку ляглі ў аснову міжнародных праектаў і арганізацыі працы анкалагічнай службы Беларусі.

Ён распрацоўваў і ўкараняў метады рэканструктыўна-пластычнай хірургіі пры камбінаваным і комплексным лячэнні злаякасных пухлін. Першым у краінах СНД правёў даследаванні, якія дазволілі абгрунтаваць прынцыповую магчымасць выкарыстання мікрахірургічных тэхналогій у анкалогіі.

Па ініцыятыве Іосіфа Залуцкага ў Беларусі ўпершыню арганізавалі Еўрапейскую школу анкалогіі для студэнтаў ВНУ. Ён таксама працаваў з літоўскімі дактарамі над міжнародным праектам па імунатэрапіі раку, праводзіў сумесныя даследаванні ў анкалогіі з украінскімі медыкамі.

Згодна з афіцыйным сайтам Акадэміі навук, Іосіф Залуцкі з'яўляецца аўтарам больш за 445 навуковых прац. Ён аўтар 17 патэнтаў на вынаходніцтвы. Пад кіраўніцтвам Залуцкага абаранілі 16 кандыдацкіх і пяць доктарскіх дысертацый.

Залуцкі быў членам шматлікіх медыцынскіх асацыяцый – Еўрапейскага таварыства хірургаў-анколагаў, Еўрапейскага кангрэса радыёлагаў, Еўрапейскай асацыяцыі медыцынскіх анколагаў, сябрам праўлення Міжнароднай асацыяцыі пластычных хірургаў, членам Еўрапейскага таварыства прамянёвых тэрапеўтаў-анколагаў.

Два гады таму, 13 чэрвеня 2018 года, Іосіф Залуцкі памёр пасля працяглай хваробы.



Падрыхтавала Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Пенсіянера прызналі абмежавана дзеяздольным з-за алкаголю

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Рашэнне суда Маладзечанскага раёна задаволіла рашэнне пракурора аб прызнанні абмежавана дзеяздольным 66-гадовага маладзечанца.**



По рашэнні суда пенсіянер пазбавіўся магчымасці распараджацца сродкамі.

У пракуратуру звярнулася яго 77-гадовая сястра. Яна папрасіла пасадзейнічаць у прызнанні абмежавана дзеяздольным яе брата з-за злоўжывання ім спіртнымі напоямі.

Справа аб прызнанні грамадзяніна абмежавана дзеяздольным з-за злоўжывання спіртнымі напоямі, наркатычнымі сродкамі, псіхатропнымі рэчывамі, іх аналагамі можа быць пачатая па заяве членаў сям'і, пракурора, органа апякунства, грамадскіх аб'яднанняў, статус ці палажэнне якіх даюць такое права.

**У заяве аб прызнанні абмежавана дзеяздольным трэба выкласці абставіны, якія сведчаць, што чалавек ставіць сям'ю ў складанае матэрыяльнае становішча злоўжываннем.**

Такім чынам, для абмежавання дзеяздольнасці патрэбныя дзве ўмовы: злоўжыванне спіртнымі напоямі, наркатычнымі сродкамі або псіхатропнымі рэчывамі. Другая ўмова – з-за гэтых дзеянняў сям'я знаходзіцца ў складаным матэрыяльным становішчы.

Тыя, хто звяртаецца ў пракуратуру з падобнай заявай, звычайна жывуць з такімі людзьмі і вядуць сумесную гаспадарку.

У гэтым выпадку сястра і брат жывуць у розных раёнах Мінскай вобласці, у жанчыны свая сям'я. Але яна мусіць жыць на два дамы і несці расходы па ўтрыманні брата.

**Жанчына патлумачыла, што брат жыве ў кватэры ў Маладзечанскім раёне, якая належыць ёй.**

У брата ёсць дачка, якая жыве ў Расійскай Федэрацыі, але да бацькі прыязджае рэдка.

Сваю пенсію брат траціць за некалькі дзён на спіртное. А астатак месяца жанчыне і яе мужу даводзіцца дагледаць мужчыну. Яму купляюць ежу, адзенне, абутак, бытавыя прыналежнасці.

**І сама сястра, і яе муж – пенсіянеры, таму такая сітуацыя для сям'і няпростая.**

Муж жанчыны ў судзе быў у якасці сведкі. Ён пацвердзіў словы жонкі. Патлумачыў, што цягам доўгіх год брат жонкі для іх як член сям'і. Жонка з-за злоўжывання брата яго падтрымлівае і дапамагае весці быт. Клапоціцца пра брата і большую частку часу яны праводзяць у доме сваяка.

**Цяпер брат жонкі часова жыве з імі ў Мядзельскім раёне, таму што па месцы жыхарства робяць рамонт, бо ён прывёў кватэру ў антысанітарны стан.**

Сам брат патрабаванні не прызнаў.

**Патлумачыў, што сапраўды расходуе грошы на спіртное, але лічыць, што можа самастойна распараджацца пенсіяй.**

Суд прыйшоў да высновы, што мужчына ставіць сям'ю ў цяжкае матэрыяльнае становішча, распараджаючыся пенсіяй і выдаткоўваючы на спіртное. Не дапамагае матэрыяльна сястры, якая мусіць яго забяспечваць і ігнаруе яе маёмасныя і іншыя інтарэсы.

**Суд пастанавіў абмежаваць пенсіянера ў дзеяздольнасці ў частцы атрымання і распараджэння пенсіяй і іншымі даходамі.**

Рашэнне суда ўступіла ў законную сілу.

**Аліна УТКІНА,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

# Сын не працаваў і піў за пенсію маці

**У аграгарадку Нарач участковы дапамог жанчыне ў складанай сітуацыі.**

У Мядзельскі РАУС звярнулася жыхарка аграгарадка Нарач са словамі падзякі ў адрас участковага інспектара старшага лейтэнанта міліцыі **Алега Калесніка** за дапамогу ў вырашэнні складанай жыццёвай сітуацыі.

37-гадовы сын жанчыны, інвалід трэцяй групы, які знаходзіцца на ўліку ў псіхіятра, захвоціўся да спіртнога. Мужчына жыве з маці, нідзе не працуе, а выпіўку купляе сабе на матчыну пенсію. Будучы нецвярозым часта стаў паводзіць сябе агрэсіўна. Усе спробы маці спыніць яго не мелі поспеху.

Тады жанчына папрасіла дапамогі ва ўчастковага інспектара Алега Калесніка. Алег Мікалаевіч дапамог жанчыне прайсці з сынам медыцынскае абследаванне, па выніках якога мужчыну накіравалі на лячэнне ў медустанову. У прызначаны час участковы на сваёй уласнай машыне таксама дапамог жанчыне даставіць сына ў бальніцу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# «Смаргонь» – найлепшая футбольная каманда рэгіёна

**У першай і другой лігах прайшло ўжо амаль два месяцы турніраў. З нашага рэгіёна ўдзельнічаюць чатыры каманды: «Астравец», «Смаргонь», «Ашмяны-БДУФК», «Маладзечна». Аднак толькі адна з іх цяпер займае самую лепшую пазіцыю. І гэта – «Смаргонь».**



Фота Сяргея ПЛІСКО.

Смаргонцы займаюць першы радок у турнірнай табліцы першай лігі.

### Што змянілася ў смаргонцаў у гэтым сезоне

Галоўным змяненнем стаў новы трэнер. Узімку стала вядома, што трэніраваць смаргонскую каманду будзе **Вячаслаў Герашчанка**. Ён раважна працаваў з беларускімі камандамі, а летась трэніраваў у Літве.

Склад смаргонскай каманды таксама змяніўся, у каманду прыйшлі легіянеры з Расіі. Напрыклад, 23-гадовы расіянін **Алан Містулаў** цяпер з'яўляецца галоўным бамбардзірам смаргонцаў – на яго рахунку ўжо тры мячы.

### Як гуляе «Смаргонь» і першае паражэнне ў сезоне

Смаргонцы правялі ўжо восем тураў. У іх футбалісты дамагліся чатырох перамог, згулялі тройчы ўнічыю і адзін матч прайгралі.

**Праз гэты вынік па васьмі турах смаргонская каманда знаходзіцца на першым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі.**

13 чэрвеня смаргонцы прайгралі першы матч у сезоне-2020. «Смаргонь» з мінімальным лікам у адзін гол перамаглі сапернікі з «Граніту» з Мікашэвічаў. У гульні ў Лунінцы гулец «Граніту» **Андрэй Леўкавец** забіў з пенальці.

Вячаслаў Герашчанка пракаментаваў паражэнне для прэсавай службы клуба і адзначыў, што смаргонцы прайгралі з-за кадравага дэфіцыту. **Дзяніс Якубовіч** выбыў з-за карткі, а **Дзмітры Халімончыкаў** атрымаў траўму.

– У нас і так мала людзей, а калі яшчэ выбываюць два чалавекі, тады нам удвая цяжэй прыходзіцца. Цяжка гуляць супраць тых, хто садзіцца ўсёй камандай у абарону і чакае свайго шанцу ў контратацы.

Герашчанка сказаў, што смаргонская каманда памылілася і дапусціла фол у зоне варатара. Суддзя залічыў фол, таму Леўкавец і забіў мяч з 11-метровага.

**– Нашага майстэрства не хапіла, каб абыграць адзін на адзін саперніка, ствараць моманты. Цяжка нам з пазіцыі сілы гуляць.**

Мы спрабавалі выратаваць гульню, але добрых момантаў не было. Былі паўшансы, але мы імі не скарысталіся. Не магу сказаць, што гэта нейкае заслужанае паражэнне. Больш справядлівым вынікам быў 0:0, – падкрэсліў галоўны трэнер «Смаргоні».

### А што з астатнімі камандамі?

У першай лізе таксама выступаюць «Ашмяны-БДУФК». Вынікі ў каманды горшыя, чым у смаргонцаў. Ашмянская каманда на дадзены момант знаходзіцца на дзявятым месцы. «Ашмяны» правялі восем матчаў, з якіх у двух дамагліся перамогі, у трох прайгралі і яшчэ тры завяршылі ўнічыю.

У другой лізе наш рэгіён прадстаўляюць «Маладзечна» і «Астравец».

**Маладзечанскія футбалісты правялі шэсць матчаў: тры перамогі, нічыя і два паражэнні. Цяпер «Маладзечна» займае сёмую пазіцыю ў турнірнай табліцы.**

У «Астраўца» лепшыя вынікі. Каманда згуляла сем матчаў: чатыры перамогі, нічыя і тры паражэнні. Такім чынам, астраўчане займаюць пятае месца ў табліцы.

Адзначым, што ў розыгрышы другой лігі ў гэтым сезоне ёсць адрозненні. Каманды гуляюць у дзвюх групах. Пасля заканчэння гульняў у групах тры лепшыя каманды з гэтых груп працягнуць спаборнічаць між сабой у наступным этапе. Маладзечанцы і астраўчане гуляюць у адной групе.



Падрыхтавала Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Больш за палову спонсараў Алімпійскіх гульняў у Токіа пакуль не вырашылі, ці будуць фінансаваць гульні

Больш за палову спонсараў Алімпійскіх гульняў-2020 у Токіа не вызначыліся, ці будуць працягваць аказваць фінансавую падтрымку пасля пераносу гульняў на 2021 год з-за пандэміі каранавіруса. Аб гэтым паведамляе «Трибуна» са спасылкай на агенцтва «Франс-Прэс».

Па выніках апытання японскага тэлеканала NHK, у спонсараў ёсць асцярогі па магчымым скарачэнні глядацкай аўдыторыі з-за каранавіруса. Таксама існуе рызыка, што гульні могуць быць адмененыя, калі сітуацыя з пандэміяй не дазволіць іх правесці.

68% апытаных прадстаўнікоў кампаній адзначылі, што перанос Алімпійскіх гульняў на год істотна адбіўся на фінансавым становішчы спонсараў.

Алімпійскія гульні ў Токіа павінны прайсці ад 23 ліпеня да 8 жніўня 2021 года. Іх перанеслі праз пандэмію каранавіруса са жніўня 2020 года.

**by.tribuna.com.**

## Жаночая зборная па баскетболе праводзіць збор

12 чэрвеня жаночая зборная па баскетболе распачала трэніровачны збор.

Баскетбалісткі, якіх выклікалі на збор: **Марыя Папова, Арына Масько, Марына Івашчанка, Ганна Брыч, Яніна Інкін, Дар'я Магаляс, Ганна Лапо, Юлія Васілевіч, Наталля Гарбачова, Ірына Венская, Аляксандра Шаўчэнка, Паліна Катлінская, Яна Захарэвіч, Кацярына Рыбалко, Яна Лябедзіч**.

Галоўны трэнер – **Наталля Трафімава**, асістэнт – **Аляксей Пынцікаў**.

Трафімава ў каментары федэрацыі баскетбола адзначыла, што збор быў неабходны. Яна патлумачыла, што баскетбалісткі знаходзіліся без гульнёвай практыкі з сярэдзіны сакавіка праз пандэмію каранавіруса.

– Гэта выдатная магчымасць прыглядзець перспектыўных дзяўчынак з бліжэйшага рэзерву нацкаманды, надаць больш увагі тым маладым гульцам, якія ўжо трапляюць у склад зборнай. Да таго ж, не варта забываць, што ў лістападзе 2020 года нам трэба будзе згуляць матч кваліфікацыі Еўрабаскета-2021 супраць Польшчы. Таму калі сітуацыя з эпідэміяй наладзіцца і расклад не зменіцца, то мы павінны падысці да дадзенай сустрэчы ў поўнай баявой гатоўнасці, чаму таксама паспрыяе праца, праведзеная на дадзеным зборы, – распавяла Трафімава.

Збор жаночай нацыянальнай каманды праходзіць ад 12 да 29 чэрвеня на базе шматфункцыянальнага фізкультурна-спартыўнага комплексу «Алімпік-Арэна».

Нагадаем, беларуская федэрацыя баскетбола стала першай федэрацыяй у Беларусі, якая спыніла ўсе спаборніцтвы праз пандэмію каранавіруса.

**Паводле belarusbasket.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Тое, што хто-небудзь павінны выконваць у адпаведнасці з грамадскімі або асабістымі патрабаваннямі.
3. 60 хвілін.
5. Ажыццяўленне дзейнасці.
6. Кароткая жаночая верхняя адзежына.
8. Адмаўленне ад яды ў знак пратэсту.
11. Працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыяванне органаў.
12. Кантрольны лісток, які дае права атрымаць што-небудзь.
13. Надзвычайныя прыродныя здольнасці.
17. Прадмет мэблі, звычайна са спінкай, прызначаны для сядзення аднаго чалавека.
20. У грэчаскай міфалогіі – бажаство ў выглядзе жанчыны, якое ўвасабляе сабой розныя сілы прыроды.
21. Прэснаводная рыба, якая разводзіцца ў сажалках, штучных вадаёмах.
24. Крыптаграфія.
25. Частка цела ў чалавека і жывёл, у якой знаходзяцца страўнік, кішэчнік, селязёнка і іншыя органы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Поўны жыццёвых сіл; бадзёры, рухавы.
4. Мясцовасць з прыроднымі лекавымі сродкамі, прыгодная для пабудовы лячэбніц, санаторыяў, дамоў адпачынку.
7. Водная прастора паміж мацерыкамі.
8. Збан без ручкі.
9. Тлушч з раслiннага насення.
10. Той, хто займаецца публічным выкананнем твораў мастацтва.
14. Страва, прыгатаваная з мяснога ці іншага фаршу, загорнутага ў капусныя лісты і тушанага ў соусе.
15. Назаўсёды, на ўсё жыццё.
16. Асадкавая горная парода, вязкая ў вільготным стане, якая ляжыць на паверхні зямлі або пад глебай.
17. Нахіл галавы ў знак прывітання, згоды.
18. Друкарскі нахільны шрыфт з напісаннем літар, падобным да рукапіснага.
19. Спецыяліст, які займаецца нумізматыкай; збіральнік старажытных манет і медалёў.
22. Водступ управа ў пачатку першага радка тэксту.
23. Колькасць надоенага малака.
26. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.

## Адказы на крыжаванку з №24

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Чарадзей. 3. Падаць. 5. Заварка. 9. Палац. 11. Вяснушкі. 12. Драпежнік. 13. Капатыч. 14. Дэпутат. 16. Павук. 20. Крэдыт. 21. Асарці. 22. Аберуч. 25. Локан.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Вайна. 4. Агонь. 6. Загар. 7. Звалка. 8. Акварэль. 10. Каса. 12. Дрыгавічы. 15. Куст. 16. Пінцэт. 17. Заказ. 18. Дыханне. 19. Зрок. 23. Абмен. 24. Цэгла.

## ● ГАРАСКОП НА 19-25 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Вам давядзецца ўключыцца ў працу над рэалізацыяй планаў. Крытычна ацаніце сілы і магчымасці, а таксама свой запал. Пад канец перыяду ўзнікне шмат працы, так што на выхадных знайдзіце магчымасць для расслаблення.



**ЦЯЛЕЦ.** Неабходна прадэманстраваць гібкасць і ў рабочых справах, і ў сямейных пытаннях. Пакажыце, што вы можаце ісці на саступкі – часам гэта найлепшы спосаб дамовіцца. Каб адчуваць гармонію дома, выдзеліце час на яго абуладкаванне.



**БЛІЗНЯТЫ.** Старайцеся акуратна фармуляваць важныя выказванні – некаторыя змогуць няправільна вас зразумець, з-за чаго магчымыя складанасці. У працы чакайце цікавай прапановы.



**РАК.** Усе падводныя камяні можна пераадолець дзякуючы настойлівасці і ініцыятыве. Серада стане ўдачным днём. На выхадных пастарайцеся як мага лепш змагацца з раздражненнем, хаця гэта будзе і не проста.



**ЛЕЎ.** Лепшым памочнікам для вас стане інтуіцыя. Яна дапаможа знайсці патрэбныя сувязі, каб вырашыць важныя прафесійныя пытанні. Важна знайсці час, каб заняцца душэўнай раўнавагай. Абавязкова парадуйце каханага чалавека.



**ДЗЕВА.** Асабліва спакойным наступны тыдзень не стане. Занятасць будзе не толькі важнай, але і пасляховай. Вельмі многае будзе залежаць ад вашай ініцыятыўнасці. Смела агучвайце ідэі і бярыцеся за іх рэалізацыю.



**ШАЛІ.** Старайцеся менш гаварыць і больш рабіць. Пастарайцеся менш часу праводзіць у сацыяльных сетках – кожная гадзіна будзе важнай. Абавязкова патэлефануйце старому сябру, пра якога выпадкова ўспомніце.



**СКАРПІЁН.** Звярніце ўвагу на, здавалася б, такія дробязі. Менавіта яны дапамогуць зразумець, на чым важна канцэнтраваць увагу. Пошук новай працы наўрад ці стане пасляховым, а ў асабістым жыцці не выключаныя сваркі і раўнасць.



**СТРАЛЕЦ.** Не рабіце стаўку на адносіны, што зжылі сябе. Не варта спрабаваць вырашыць чужыя праблемы за адзін раз. Перш чым выказвацца, добра абдумайце словы.



**КАЗЯРОГ.** Дасягнуць мэты дапаможа цярплівасць і спакой. Рабіце тое, што прыносіць задавальненне, тады перашкоды знікнуць самі.



**ВАДАЛЕЙ.** Асаблівую ўвагу ўдзяліце асабістым адносінам. Вас можа парадаваць нечаканае прызнанне ў прафесійнай сферы. Падумайце над тым, як выбудоўваеце адносіны з дзецьмі.



**РЫБЫ.** З блізкімі пастарайцеся быць максімальна тактоўнымі і абачлівымі. Будзьце гатовыя атрымаць заманлівую прапанову, і не спяшайцеся адмаўляць без узважвання.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 6 | | 4 |
| | | 1 | | | 6 | | 2 | 8 |
| | | | | 2 | | | 3 | 5 |
| | 5 | | 9 | | | | 1 | |
| | | 3 | | | 4 | 2 | 5 | |
| 1 | | | 7 | | | 3 | | |
| | 9 | 5 | | 7 | | | 6 | |
| | | | | 4 | | | 8 | 1 |
| | | | | 8 | 9 | | 7 | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram! RG_RHBY


## Сацыяльны педагог з Краснага перамог у абласным конкурсе

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Падвялі вынікі абласнога конкурсу «Педагог сацыяльны-2020». Сярод пераможцаў – педагог з Красненскай школы, сярод фіналістаў – з вілейскай гімназіі «Логас».

Сацыяльны педагог **Іна Мацкевіч** з Красненскай сярэдняй школы заняла другое месца, саступіўшы калезе з Барысава.

Сацыяльны педагог вілейскай гімназіі №1 «Логас» **Таццяна Заступневіч** атрымала дыплом фіналіста.

Канкурсанты прадставілялі відэазапіс занятках, гульні, пісалі эсэ, праходзілі тэставанне на веданне прававой нарматыўнай дакументацыі. На заключным этапе, куды прайшло восем удзельнікаў, кожны прадставіў візітоўку і відэазапіс майстар-класа, паведамляюць у галоўным упраўленні па адукацыі Мінаблвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пацыенты з каронавірусам будуць атрымліваць бясплатныя лекі

Дапоўнілі пералік захворванняў, якія даюць права на бясплатнае забеспячэнне лекамі і лячэбным харчаваннем. Адпаведную пастанову Савета Міністраў ад 15 чэрвеня гэтага года №344 афіцыйна апублікавалі 17 чэрвеня на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Згодна з дакументам, інфекцыю, выкліканую каронавірусам COVID-19, занеслі ў пералік захворванняў, якія даюць права на бясплатнае забеспячэнне лекамі.

Лекі выдаюцца па рэцэптах дактароў у межах пераліку асноўных лекавых сродкаў, пры амбулаторным лячэнні. Пастанова ўступіла ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання, з 18 чэрвеня.

**Паводле pravo.by.**

## У школах не будзе летняй практыкі

Такое рашэнне прынялі на падставе ліста Міністэрства адукацыі.

Традыцыйна працоўная практыка арганізуецца на летніх канікулах у вучняў пятых-восьмых класаў. Школьнікі дапамагаюць ва ўборцы і добраўпарадкаванні тэрыторыі, працуюць на прышкольным участку, выконваюць розную працу ў навучальных кабінетах і бібліятэцы.

Доўжыцца практыка пяць дзён па тры гадзіны. Вучні дзясятых класаў на летніх канікулах у мінулыя гады праходзілі вучэбна-палявыя зборы. Але ў гэтым годзе іх таксама не будзе. Усім установам адукацыі гэтую інфармацыю ўжо давялі.

**Паводле mlyn.by**

## Чытайце праз тыдзень:

- **У адным з маладзечанскіх двароў задумалі зрабіць сапраўдную галерэю – дзверы пад'ездаў упрыгожыць выявамі, звязанымі з беларускай культурай. Як гэта будзе выглядаць і хто збіраецца ўвасабляць праект у жыццё, чытайце праз тыдзень.**




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература +2,6°С у 2000 годзе
Максімальная тэмпература +29,5°С у 2019 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,1 мм у 2016 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Завяршаецца падпіска на 2-е паўгоддзе!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна:**

**праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

**на пошце**

**праз паштальёна**

**праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек,
- на паўгоддзе – 29 рублёў 76 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў,
- на паўгоддзе – 96 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Які самы далёкі продак, імя якога вы ведаеце?



**Анжэла Цімафеенка, педагог-псіхолаг, Вілейка:**
– Прапрадзядуля Варфаламей Барташэвіч нарадзіўся ў 1858 годзе, а памёр у 1933 годзе.



**Наталля Капуцкая, ветэрынарны фельчар, Чысць, Маладзечанскі раён:**
– Тата распавядаў, што быў дзед Міхалачка і баба Кацярынка. А ў мамы быў дзядуля Мадэст і бабуля Варвара. Мама расказвала пра дзядулю, што ён быў настолькі дужы, што мог дрэвы з коранем вырываць.



**Таццяна Проніна, аператар, Чысць, Маладзечанскі раён:**
– Мабыць, толькі прадзедаў: Стэфаніда, Марыя, Паліна, Мацвей, Гаўрыл, Рыгор, Мірон.



**Юры Высоцкі, міліцыянер, Вілейка:**
– Прадзеда Якава.



**Лідзія Васільева, пенсіянерка, Вілейка:**
– Ведаю прадзедаў Сямёна, Адама, Ануфрыя, а таксама прабабуль Ганну ды Кацярыну.



**Міхаіл Кандрацкі, пенсіянер, Даўгінава, Вілейскі раён:**
– Ведаю свайго прадзеда Івана Кандрацкага. Ён быў селянінам, забілі палякі ў 1920 годзе, калі яны рабавалі яго гаспадарку.



**Вольга Завада, гаспадыня, Вілейка:**
– Самыя далёкія – гэта мае прабабулі і прадзеды. З боку таты, мама яго мамы, – Марыя Мядзведзева. А прадзед па лініі таты – Ігнат Драгун.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1312) 19.06.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1007. Падпісана ў друк у 9.00 18.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.